



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

26 мая 2017 года №21 (1152)


## Віляйчанін аднавіў сямейную традыцыю – браць у жонкі дзяўчыну з такім самым прозвішчам

старонкі 2-3

## "Як спалілі стог сена, то і курыць перахацелася"

Жыхары рэгіёна пра выпадкі, пасля якіх расхацелася курыць на ўсё жыццё

старонка 18

## Як 5 месяцаў пажыць у Берліне са стыпендыяй 500 еўра

старонка 5

# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

"Рэгіянальная газета" пачынае новы праект. Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі, але яны патрэбныя і сёння.

Калі ў вас ёсць, чым падзяліцца, тэлефануйце на нумар (80176) 53-78-06 альбо пішыце на электронную пошту regionnews@rh.by.






маслабойка | качалка | калаўрот






прасніца | жорны | цэп

Старонка 21

# "Пытаюцца, якое прозвішча будзе бр A ў нас жа аднолькавыя"

## Віляйчанін аднавіў сямейную традыцыю – браць у жонкі

ВІЛЕЙКА

**Работнікі ЗАГСаў адзначаюць, што цяпер шматлюдныя вяселлі – гэта рэдкасць, бо вясельныя паслугі, арэнда кафэ альбо рэстарана каштуюць вельмі дорага.**



Фота забяспечанае Дзмітрыем РОГАЧАМ.

Спачатку пара думала толькі распісацца. Але зразумелі, што гэта будзе надзвычай проста – падзея не запомніцца, не адчуеш, што набываеш новы статус, а разам з тым і адказнасць за іншага чалавека. Вяселле зладзілі 21 красавіка.

**Дзмітры і Надзея Рогачы** з вёсак Каралеўцы і Куранец на Вілейшчыне таксама зладзілі невялікую ўрачыстасць у Вілейцы, на ёй прысутнічала 28 чалавек. Яны знайшлі спосаб, як зладзіць вяселле і не застацца без капейкі.

Аднак пра ўсё па парадку.

### Складалі радавод, каб не аказацца сваякамі

Пару пазнаёмілі сябры амаль пяць гадоў таму. Гэта не было каханне з першага погляду, пачуцці разгараліся паступова: кантактавалі паміж сабой, сустракаліся, праз некаторы час зразумелі, што ўжо сталі парай.

– У мяне ёсць брат, якога завуць Дзмітры, – узгадвае Надзея. – І сяброўка, якая першая пазнаёмілася з маім будучым мужам, спыталася, ці не мой гэта брат, і скінула спасылку ў інтэрнэце на яго акаўнт. Так я ўбачыла Дзмітрыя першы раз. Потым яшчэ некалькі разоў мімаходзь бачыла ў Маладзечне. А пазней нас пазнаёмілі сябры.

Доўгі час маладыя людзі ведалі толькі імёны адзін аднаго. І наколькі былі здзіўленыя, калі даведаліся, што маюць аднолькавае прозвішча – Рогач.

– Спачатку падумалі, што сваякі, пачалі распытваць у бацькоў пра родных, склалі невялікі радавод. Аказалася, што нават не далёкія сваякі, тады супакоіліся, – расказвае Дзмітры.

### "Думалі толькі распісацца, але гэта было б вельмі проста"

Сёлета пасля Новага года пара вырашыла падаць заяву ў ЗАГС.

– Як такой прапановы рукі і сэрца ў нас не было, – дзеліцца нявеста. – Паразмаўляўшы, мы прыйшлі да высновы, што ўжо гатовыя да шлюбу, да больш сур'ёзных адносінаў, бо сустракацца гэта адно, а жыць разам, весці гаспадарку, планаваць бюджэт гэта зусім іншае.

Праблема ўзнікла толькі з тым, калі зладзіць вяселле. Зімой бы не паспелі падрыхтавацца, летам не падыдзе – Дзмітрыю прыйшла павестка ў армію, маглі забраць служыць, заставалася толькі вясна.

Аднак да сярэдзіны красавіка доўжыўся пост перад Вялікаднем.

> **Мама Надзі чалавек веруючы, сказала, што не дазволіць не тое, што зладзіць вяселле, а нават распісацца. У маі пара таксама не хацела, каб не маяцца. Заставаліся два тыдні красавіка, вырашылі зладзіць урачыстасць 21.**

– Спачатку думалі толькі распісацца, – узгадвае жаніх. – Але зразумелі, што гэта будзе надзвычай проста – падзея не запомніцца, не адчуеш, што набываеш новы статус, а разам з тым і адказнасць за іншага чалавека.

І тут пачаліся першыя прыемныя клопаты і разам з тым цяжкасці. Доўга не маглі знайсці месца, дзе правесці ўрачыстасць. Таксама цэны на вясельныя паслугі былі вельмі кусачыя.

### Адзенне на свае грошы, зладзіць урачыстасць дапамагалі бацькі

– Самі назбіралі грошай на вясельную сукенку і касцюм, – раскладае вясельны бюджэт Дзмітры. – З туфлямі мне пашанцавала – не трэба было набываць, якраз новыя былі. А астатняя частка расходаў лягла на плечы бацькоў, яны дапамагалі зладзіць урачыстасць.

З выбарам спецыялістаў пара таксама не спяшалася, прыцэньваліся. Пашанцавала ў тым плане, што многіх паралі знаёмыя – выйшла значна танней. Да падрыхтоўкі спрычыніліся таксама дружкі.

– Бамбаньеркі для гасцей ў форме кавалачка торціка, а ўнутры з арэшкамі ў глазуры рабіла дружка, – расказвае Надзея. – Калега ведала, што выходжу замуж, таму на мой дзень нараджэння падарыла вясельныя бакалы. З упрыгожаннем бутэлькі шампанскага для маладых дапамагла сяброўка – аздобіла стужкамі. Мне заставалася толькі купіць самі стужкі і шампанскае.

– Фатографа параіў сведка, яго сястра прафесійны фатограф у Мінску, – далучаецца да размовы Дзмітры. – Як аказалася, на ўрачыстасці сярод гасцей былі яшчэ два фатографы. Цяпер з нецярпеннем і адначасова боязню чакаем, калі аддадуць усе фотаздымкі – глядзець-не пераглядзець. У майго сябра кветкавы магазін, таму вясельны букет выбралі ледзьве не дарма.

Калі ў маладых галоўнымі клопатамі былі, як зрабіць урачыстасць прыгожай і цікавай, мамы хваляваліся, каб госці не засталіся галоднымі, выбіралі меню не адзін дзень.

### Якое прозвішча будзе браць нявеста?

Маладыя прызнаюцца, што самым хвалюючым падчас урачыстасці была рэгістрацыя і момант, калі надзявалі пярсцёнкі.

> **– Смяяліся, калі падчас рэгістрацыі спыталіся, якое прозвішча будзе браць нявеста, – узгадвае прыемныя моманты Дзмітры. – А ў нас яно аднолькавае. Мы з Надзяй аднавілі сямейную традыцыю, якая склалася ў сям'і, – браць у жонкі дзяўчат з такім самым прозвішчам. Мой дзед і прадзед бралі ў жонкі цёзак па прозвішчы, толькі бацькі былі з рознымі прозвішчамі. А мне ўдалося аднавіць традыцыю.**

Урачыстасцю маладыя засталіся задаволеныя. Цяпер Дзмітры рыхтуе сямейнае гняздо, дом далі ад работы. Жыць пара будзе ў аграгарадку Іжа на Вілейшчыне, побач з Каралеўцамі, туды мужчына трапіў на два гады па размеркаванні.

– У Іжы шмат моладзі, – расказвае мужчына. – На нашай вуліцы восем маладых сямей, тры з іх шматдзетныя. Цяпер нас усё задавальняе, а ў далейшым будзем глядзець.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# ...рацць нявеста?

## ...дзяўчыну з такім самым прозвішчам

### Колькі патрацілі на вяселле

Тамада — **200 рублёў**

Фатограф — **92 рублі 50 капеек**

Аздабленне залы — **138 рублёў 75 капеек**

Прычоска — **50 рублёў**

Фата — **(падарунак ад салона)**

Макіяж — **рабіла сяброўка**

Падвязка — **5 рублёў**

Касцюм — **265 рублёў**

Букет — **70 рублёў**

Манікюр — **20 рублёў**

Сукенка — **518 рублёў**

Туфлі — **загадзя купленыя**

Туфлі — **78 рублёў**
Балеткі — **48 рублёў**

Рэгістрацыя шлюбу — **46 рублёў**
Падача заявы — **23 рублі**

Пярсцёнкі — **525 рублёў**

Ручнік — **15 рублёў**
Абразы — **44 рублі**

Кафэ — **1260 рублёў**

Шампанскае для маладых — **9 рублёў**
Бакалы — **падарунак калегі**

Вясельны торт — **100 рублёў**
Каравай — **10 рублёў**

Падарункі радні жаніха — **200 рублёў**

Падарункі для конкурсаў — **30 рублёў**

**3697 рублёў 25 капеек** усяго выдаткавалі

**1137 рублёў 75 капеек** удалося зэканоміць, бо многіх спецыялістаў паралі знаёмыя

## Падпішыся на "Рэгіянальную газету" на 2-е паўгоддзе

Знайдзіце свой сімвал удачы!

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

*Толькі падпіска можа забяспечыць сталае існаванне газеты, яе развіццё, упэўненасць у заўтрашнім дні і якасць.*

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце.

Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

**Цэны на 2-е паўгоддзе:**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў, на паўгода – 18 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў, на паўгода – 54 рублі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.05 руб. | 25.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,8583 | 1,8527 |
| Еўра | 2,0618 | 2,0715 |
| Злоты, 10 | 4,8765 | 4,9430 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2758 | 3,2923 |
| Грыўня, 100 | 7,0093 | 7,0539 |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 17.05 | 24.05 |
| Еўра | 2.0250/2.0630 | 2.0600/2.0850 |
| Долар ЗША | 1.8400/1.8600 | 1.8400/1.8580 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 17.05 Цана руб. | 24.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | 16,85 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | 6,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | 4,15 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | 12,90 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | 2,25 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | 0,95 |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | 6,49 |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,49 | 1,30 |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,29 | 1,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,49 | 2,95 |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,50 | 4,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,79 | 2,95 |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Радыска, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Ківі, 1 кг | 4,69 | 4,65 |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 2,50 | 2,50 |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | 2,95 |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | 1,60 |
| Перац, 1 кг | 5,00 | 6,00 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,49 | 3,95 |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | 4,80 |
| Клубніцы, 1 кг | – | 12,00 |
| Чарэшні, 1 кг | – | 15,00 |
| Персікі, 1 кг | – | 4,00 |
| Нектарыны, 1 кг | – | 6,00 |
| Абрыкосы, 1 кг | – | 5,00 |
| Бананы, 1 кг | 2,65 | 2,69 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | 1,85 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,45 | 3,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Бульба (маладая), 1 кг | 2,40 | 2,00 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

## Не ўключылі фары – падрыхтуйце 46 рублёў

### Пачынаецца акцыя "Увага – дзеці!"

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 25 мая да 5 чэрвеня дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна праводзіць рэспубліканскае спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Увага – дзеці!"**

Кіроўцаў просяць рухацца ў светлы час сутак з уключаным бліжнім святлом фараў альбо дзённымі хадавымі агнямі (пры іх наяўнасці) і быць надзвычай уважлівымі і асцярожнымі.

За парушэнне патрабаванняў пагражае штраф да дзвюх базавых велічынь (да 46 рулёў).

Падчас дадзенага мерапрыемства супрацоўнікі міліцыі грамадскай бяспекі сумесна з работнікамі аддзелаў адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама правядуць комплекс мерапрыемстваў:

- рэйды па знаходжанні парушэнняў правілаў дарожнага руху дзецьмі і ў далейшым прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці дарослых,
- прасочаць за тым, як перавозяць дзяцей у машынах, а таксама падчас цэнтралізаваных паездак (музеі, тэатры, спартыўныя спаборніцтвы і іншае),
- правядуць гутаркі ў рабочых калектывах аб неабходнасці рухацца ў светлы час сутак з уключаным на транспартным сродку бліжнім святлом фараў.

Аналіз аператыўнай абстаноўкі ў сферы дарожнага руху сведчыць, што ад чэрвеня да верасня абвастраецца праблема дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму. За чатыры месяцы на тэрыторыі Мінскай вобласці з удзелам непаўналетніх зарэгістравана дзевяць дарожна-транспартных парушэнняў – на сем менш, чым летась. 13 дзяцей атрымалі траўмы – на чатыры менш, чым летась. Загінулых не зарэгістравана.

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна з пачатку бягучага года зарэгістравана 16 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх чатыры чалавекі загінулі, 19 атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Адна аварыя была па віне нецвярозага кіроўцы. З удзелам непаўналетніх зарэгістравана адно дарожна-транспартнае здарэнне, у якім адно дзіця атрымала траўмы рознай ступені цяжкасці.

**Паводле дзяржаўтаінспектара аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС капітана міліцыі Сяргея БАРТОША.**

# З пажару выратавалі пяцярых дзяцей і дваіх дарослых

МАЛАДЗЕЧНА

19 мая ў 17:48 у службу выратавання ад вахцёра паступіла паведамленне пра задымленне ў пакоі інтэрната ў Маладзечне на вуліцы Галіцкага.

Выратавальнікі заўважылі моцны дым з акна на другім паверсе чатырохпавярховага будынка інтэрната.

Работнікі МНС выратавалі сем чалавек. Па аўталесвіцы з трэцяга паверха вывелі мужчыну, жанчыну і маленькую дзяўчынку, двух хлопчыкаў малодшага школьнага ўзросту, па трохкаленнай лесвіцы з другога паверха – хлопчыка (таксама малодшага школьнага ўзросту) і маленькую дзяўчынку.

Астатнія змаглі выйсці самастойна да прыбыцця падраздзяленняў МНС.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчымая версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

У пакоі, дзе адбыўся пажар, згарэла маёмасць, закураныя столь і сцены агульнага калідора.

Да месца пажару прыехалі пяць машын.

**Паводле сайта МНС.**




Выратавальнікі працуюць на месцы здарэння.

НАВІНЫ

## Ля палачанскай пошты хуліганы паламалі плот

МАЛАДЗЕЧНА

Увечары трое сяброў гулялі па Палачанах. Заняцца не было чым.

Тады 20-гадовы хлопец, які нідзе не працуе і не вучыцца, разам з дзевяцікласнікам мясцовай школы і 18-гадовым ліцэістам з Маладзечаншчыны выршылі паламаць плот.

Што і зрабілі каля апоўначы. Яны пашкодзілі агароджу вакол мясцовай пошты. І нанеслі шкоду у 518 рублёў.

Па словах старшага следчага маладзечанскага РАСК **Юрыя Багушэвіча**, хлопцы раней судзімыя не былі. У справе няма звестак пра тое, што яны напярэдадні выпівалі.

Завялі крымінальную справу па артыкуле "Хуліганства, здзейсненае групай асоб".



## Мужчына скраў прадукты ў роднай сястры

МАЛАДЗЕЧНА

42-гадовы маладзечанец месяц таму вярнуўся з турмы. Мужчына нідзе не працаваў. Жыў у кватэры з мамай і сястрой.

Неяк раніцай ён адкрыў халадзільнік і пачаў збіраць у пакет прадукты, якія набыла сястра.

Жанчына ўбачыла гэта, паспрабавала перашкодзіць брату, парвала пакет, у які ён склаў ежу.

Аднак мужчына сабраў прадукты і вынес іх з кватэры.

19 мая у раённым аддзеле Следчага камітэта Маладзечна завялі крымінальную справу. Шкода склала 22 рублі.

Расказаў старшы следчы маладзечанскага РАСК Юры Багушэвіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Маладзечаншчыне дазволілі купацца ў чатырох вадаёмах, адзін з іх толькі для тых, хто адпачывае ў санаторыі




МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета на Маладзечаншчыне дазволена купацца ў чатырох вадаёмах.**

Сярод іх:

1. **Вадаём "Удранка"** побач з гарадскім пасёлкам Радашкавічы (раён дзіцячага аздараўленчага лагера "Маяк"),
2. Вадаём філіяла **санаторый "Сасновы бор"**.
3. Вадаём у **аграгарадку Беразінскае**,
4. Вадаём **Дома адпачынку "Алеся"** (толькі для тых, хто адпачывае ў санаторыі).

На іншых вадаёмах Маладзечанскага раёна купанне **ЗАБАРОНЕНАЕ**.

Па выніках леташняга аналізу варта звярнуць увагу на тое, што з васьмі загінулых шэсць знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, адзін непаўналетні таксама быў у стане алкагольнага ап'янення.

**Паводле Дзмітрыя ГЕНЕРАЛАВА, выканальніка абавязкаў кіраўніка Маладзечанскага раённага таварыства выратавання на водах.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ










# ГЕРМАНІЯ
## 5 МЕСЯЦАЎ ЗНАЁМСТВА

1 САКАВІКА - 31 ЛІПЕНЯ

Такую магчымасць маладым людзям, якія валодаюць нямецкай мовай, дае **Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS)**, што кожны год прадастаўляецца выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў з розных краін, у тым ліку з Беларусі. Падчас знаходжання ў Германіі прадугледжана стажыроўка ў аднаго з дэпутатаў Германскага Бундэстага, а таксама заняткі ў Берлінскім універсітэце імя Гумбальдта. Усе расходы, звязаныя з гэтай паездкай, бярэ на сябе нямецкі бок. Калі Вас гэта зацікавіла, падавайце заяўкі на ўдзел у конкурсе! Больш падрабязную інфармацыю Вы знойдзеце на сайце Пасольства Германіі ў Мінску:

www.minsk.diplo.de,тэл.: 217 59 00, e-mail: info@minsk.diplo.de.

**Германскі Бундэстаг запрашае Вас сумесна з Вольным універсітэтам Берліна, Берлінскім універсітэтам імя Гумбальдта і Тэхнічным універсітэтам Берліна прыняць удзел у праграме Міжнароднай парламенцкай стыпендыі (МПС) на 5 месяцаў у Берліне.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя прадугледжаная для выпускнікоў ВНУ, якія цікавяцца палітыкай, актыўна займаюцца грамадскай дзейнасцю і маюць вельмі добрыя веды па нямецкай мове.

Германскі Бундэстаг, парламент Германіі, дае магчымасць маладым людзям на працягу 15 тыдняў, працуючы ў аднаго з дэпутатаў Бундэстага, пазнаёміцца з нямецкай парламенцкай сістэмай і з палітычнымі працэсамі прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў, а таксама набыць практычны досвед у галіне парламенцкай працы.

Стыпендыяты адбіраюцца незалежнай адборачнай камісіяй Германскага Бундэстага.

**Стажыроўка доўжыцца ад 1 сакавіка да 31 ліпеня.**

**Умовы ўдзелу**

- беларускае грамадзянства (магчыма двайное грамадзянства);
- скончаная вышэйшая (універсітэцкая) адукацыя;
- вельмі добрае веданне нямецкай мовы;
- веданне нямецкай палітыкі, грамадства і гісторыі;
- узрост менш за 30 год да пачатку ўдзелу ў праграме.

**Стыпендыя**

- 500 € штомесяц;
- аплата жылля;
- аплата страхавых і камандзіровачных выдаткаў.

Заяўкі прымаюцца ў Пасольстве Германіі ў Мінску **да 30 чэрвеня 2017 года** па электроннай пошце ў фармаце PDF. Імя файла павінна складацца з прозвішча і імені (напр. Muster-Max.pdf). Калі аб'ем файла перавышае 15 MB, трэба раздзяліць дакумент на некалькі файлаў, кожны з якіх не павінны перавышаць 15 MB.

**Адбор удзельнікаў**

Удзельнікі выбіраюцца праз двухступенчаты адбор. Папярэдні адбор ажыццяўляецца Пасольствам Германіі ў Мінску. Найбольш кваліфікаваныя кандыдаты будуць запрошаныя на інтэрв'ю, якое адбудзецца восенню ці зімой 2017 года. Камісія па адборы ўдзельнікаў пры Германскім Бундэстагу ажыццяўляе канчатковы адбор кандыдатаў на падставе іх моўных, прафесійных, сацыяльных і міжкультурных кампетэнцый.

**E-Mail: info@minsk.diplo.de**

Пытанні вы можаце накіраваць на наступны адрас:

Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія, **Мінск, вул. Захарава, 26.**
Тэл: (8017) **217-59-00**
Факс: (8017) **294-85-52**

Больш падрабязная інфармацыя – на сайце Германскага Бундэстага:
**http://www.bundestag.de/ips.**





На афіцыйным адкрыцці выставы прысутнічалі Андрэа Вікторын (злева), Уладзімір Патапенка, кіраўнік праекта "Валожын без бар'ераў" і фатограф Юлія Мацкевіч.

# Фотавыстава "Праекты ў асобах": "У мяне няма такога касцюма, гэта ўсё Юля"

**МАЛАДЗЕЧНА**

**23 мая ў Маладзечне адчыніла трэці сезон перасоўная фотавыстава "Праекты ў асобах".**

Выстава расказвае пра праекты, якія рэалізаваныя пры падтрымцы прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза (ЕС) у Беларусі.

У адкрыцці выставы ўзялі ўдзел **Андрэа Вікторын**, кіраўнік Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі, **Юлія Мацкевіч**, фатограф, аўтар фотавыставы, **Уладзімір Патапенка**, кіраўнік праекта "Валожын без бар'ераў", і многія іншыя.

Спадарыня **Андрэа Вікторын** расказала, што сёння сума, якую выдаткоўвае Еўрасаюз на развіццё праектаў у Беларусі, складае 29 мільёнаў еўра.

– Выстава ж "Праекты ў асобах" паказвае, як ініцыятывы Еўрасаюза дапамагаюць ажыццявіць мары многіх людзей. Мы рэалізуем нашы праекты не проста для беларусаў, а разам з беларусамі. І рады бачыць, як шмат у вашай краіне неабыякавых і ініцыятыўных людзей. Гісторыі такіх людзей надаюць нам сіл, натхняюць на новыя ідэі і далейшае супрацоўніцтва.

Асноўныя тэмы праектаў, прадстаўленых на фотавыставе, – ахова навакольнага асяроддзя і зялёная эканоміка, рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, укараненне энергазберагальных тэхналогій, развіццё сельскіх тэрыторый і падтрымка прадпрымальніцтва, дапамога падначаленым Беларускага дзіцячага хоспіса і жанчынам, пацярпелым ад хатняга гвалту, прасоўванне еўрапейскага падыходу ў адукацыі і навукі.

Усяго ў выставе прадстаўленыя фота 29 праектаў.

Акрамя фатаграфій, на выставе можна будзе азнаёміцца з кароткім апісаннем кожнага праекта і дасягнутымі вынікамі, пазнаёміцца з іх героямі і ўдзельнікамі.

У нашым рэгіёне рэалізуюцца, як мінімум, два праекты. Гэта "Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай". Праект рэалізоўваецца ў Вілейцы і Вілейскім раёне. Кіраўнік – **Вольга Шляпо**.

І яшчэ адзін праект "Валожын без бар'ераў".

Кіраўнік праекта **Уладзімір Патапенка** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што дзякуючы гэтаму праекту ён на сабе змог адчуць, як змяняецца горад Валожын. Як ён становіцца больш зручным і ўтульным не толькі для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, але і для ўсіх гараджан.

– А ў канцы чэрвеня мы плануем адкрыць экалагічную сцежку для людзей з інваліднасцю. Налібоцкая пушча – гэта жамчужына Валожынскага раёна, і таму неабходна, каб наведаць яе маглі ўсе людзі, незалежна ад іх фізічных магчымасцяў.

Уладзімір Патапенка глядзіць на свой фотаздымак на стэндзе.

– Вось жа мастачка Юля, у мяне такога прыгожага касцюма, як на фотаздымку, і не было ніколі. Майстар.

Пабачыць выставу можна будзе да 4 чэрвеня, пасля яна пераедзе ў Оршу.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара. Больш фота на сайце**



# “Мая зброя – колер”

## Да 90-годдзя Кастуся Харашэвіча

*Бусліны клёкат над сялянскай хатай*
*Мой родны край з дзяцінства дарагі,*
*Ці не таму ён ноччу часта сніцца*
*І, як буслам, не трэба мне другі.*

**Юрась Церабун.**

***Светлай памяці вядомага беларускага мастака Кастуся Іванавіча Харашэвіча.***

**Багатая на таленты наша зямля, але, на вялікі жаль, многіх з іх ужо няма з намі.**

Узгадваецца адна з рэспубліканскіх выстаў у Палацы мастацтваў, на якой экспанаваўся твор Кастуся Харашэвіча “Краявід з электрацягніком”.

Убачыўшы, што я затрымаўся каля гэтага палатна, да мяне падышоў мастак тэатра і кіно графік **Міхась Андрэевіч Карпук**. З ім мяне пазнаёміў брат, скульптар **Уладзімір Церабун**. Ён высока ацаніў творчасць Кастуся Харашэвіча і яго мастацтва.

Потым прапанаваў апусціцца на паверх ніжэй і ў раздзеле графікі паглядзець на яго творы.

Тры графічныя творы выкананыя алоўкам, сангінай і соусам, мне вельмі спадабаліся. Міхась Андрэевіч атрымаў добрую адукацыю. Закончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Маскоўскі паліграфічны інстытут. Прыемна было чуць цёплыя словы пра нашага мастака Кастуся Харашэвіча ад вядомага графіка.

Адкрыццё рэспубліканскіх выстаў было заўсёды ўрачыстае і прыгожае. Збіралася амаль уся мастакоўская эліта рэспублікі. Нашы пані Ядзя (Ядвіга Раздзялоўская – “РГ”) і Кастусь Іванавіч гутарылі са сваімі калегамі і разглядалі творы.

Я заўсёды любаваўся самімі творцамі.

Прыгожы бант замест гальштука ў скульптара **Заіра Ісакавіча Азгура.** Строгі на выгляд **Андрэй Ануфрыевіч Бембель, Леанід Дзмітрыевіч Шчамялёў** у сваім джынсавым касцюме з шырокім скураным поясам выглядаў як юнак, хоць і быў франтавік.

**Міхаіл Андрэевіч Савіцкі** хадзіў па выставе з цыгарэткай, устаўленай у муштук, і курыў.

У сваім жыцці ён перажыў канцэнтрацыйныя лагеры смерці, аб чым сведчыць цыкл яго твораў “Лічбы на сэрцы”. **Нінэль Іванаўна Шчасная** са сваім ажурным белым шалікам на плячах і графік **Алена Ануфрыеўна Паслядовіч** выглядалі прыгажунямі.

У той час амаль што не было столькі дзядзькаў з барадамі, як сёння.

Каб любавацца мастацтвам, трэба аб ім было хоць нешта ведаць. Даводзілася ездзіць у Мінск на лекцыі мастацтвазнаўцы **Алега Рыгоравіча Ойстраха**. Яго і цяпер можна пачуць на радыёканале “Культура”.

Беларускі дзяржаўны мастацкі музей, кніжкі па мастацтве, якія мне даваў брат, былі асноўнай школай у маім жыцці.

Кастусю Іванавічу я ніколі не казаў, што час ад часу малюю. Ён лічыў мяне проста фатографам. Бывала, прасіў прыйсці ў майстэрню сфатаграфаваць некаторыя творы.

Ніколі не даводзілася бачыць, як ён працуе, і раскладку колераў на яго мастакоўскай палітры.

**Раннія творы Кастуся Харашэвіча, выкананыя ў класічнай, традыцыйнай манеры жывапісу, былі вельмі дасканалыя.**



Кастусь Харашэвіч, мастак.

І вось з’яўляюцца яго велізарныя дрэвы-волаты, цёмнае неба з кантрасна-светлымі хмарамі і вясковыя хаты. Велічна, натхнёна і манументальна гучыць кожны яго твор. Ён знайшоў сябе і стаў не падобным ні на каго.

Дарогі, палі, узгоркі, сцежкі, іржышча, сялянскія двары, цэрквы, ветраныя млыны – усё гэта можна ўбачыць на яго палотнах.

Мастак нічога не стварае з фатаграфічнай дакладнасцю, нават партрэты і тыя стылізаваныя. Сярод іх **Францішак Багушэвіч, Генадзь Каханоўскі, Мікола Ермаловіч, Барыс Кіт, Юрась Герасіменка-Жызнеўскі**, групавы партрэт “Гарадзілава. Маладосць маіх бацькоў”. Карціна, на якой партрэты бацькоў Кастуся Харашэвіча – **Янкі і Веранікі Харашэвічаў**.

У яго майстэрні па Вялікім Гасцінцы даводзілася бываць даволі часта па запрашэнні мастака.

Калі ты прыходзіш, творца адкладае ў бок пэндзаль, а некаторыя нават накрываюць твор на мальберце. Так ужо заведзена ў мастакоўскім асяроддзі.

Вялікі мастак **Пабла Пікаса** казаў: “Я адпачываю, калі працую, і стамляюся, калі прымаю гасцей”.

Па творах у майстэрні і на выставах разумеў, што Кастусь Іванавіч выкарыстоўвае не больш за чатыры колеры. Гэта блакітны, жоўты, залацісты. Вельмі любіў цёмную карычневую і чорную фарбы. Недзе прысутнічаюць і бялілы, бо без іх не абысціся, напрыклад, у хмарах на драматычна цёмным небе.

У спалучэнні гэтых фарбаў дасягае незвычайнага эфекту і гармоніі колераў, каларыту і ўласцівага толькі яму стылю, які распазнаецца здаля.

Часта скардзіўся на сучасныя фарбы, невядома з чаго зробленыя. Цюбік ціснеш, ціснеш, вадкасці шмат, а фарбуючага пігменту крапелька, ды і каштуюць не танна. На пенсію шмат не купіш.

Не магу без хвалявання чытаць яго кніжку “Зведанае і перажытае”. Кніжка выйшла пад рэдакцыяй **Міхася Казлоўскага** і выдадзеная ў 2004 годзе. Таленавіты мастак і ўсебакова эрудзіраваны чалавек не змог атрымаць вышэйшую адукацыю. Віной усяму была вучоба ў Маладзечанскай гандлёвай школе ў час вайны і ў гады нямецкай акупацыі. У ёй выкладаў прызнаны ва ўсім свеце сёння акадэмік астранаўтыкі **Барыс Уладзіміравіч Кіт.** Яму 107 год, жыве ў Германіі.

У кніжцы **Лідзіі Савік** “Космас беларуса” пра Барыса Кіта друкуюцца ўспаміны нашага незабыўнага Кастуся Харашэвіча.

Ганаровы грамадзянін Маладзечанскага раёна **Уладзімір Калачык** вучыўся ў Барыса Кіта матэматыцы ў Лебедзеўскай сярэдняй школе.

Уладзімір Калачык быў добра знаёмы з Кастусём Харашэвічам і яго бацькамі.

Агульным сябрам Уладзіміра Міхайлавіча і Кастуся Іванавіча быў дыпламатычны работнік **Пётр Кузьміч Краўчанка**. Іх сяброўства доўжылася шмат гадоў. Кастусь Іванавіч вельмі ганарыўся кніжкай Пятра Краўчанкі “Як я стаў дыпламатам” і асобныя моманты зачытваў нам пры гутарках у майстэрні.

Двойчы давялося быць на дачы Харашэвічаў ля маладзечанскага Гарадка. Усё зроблена прыгожа і па-гаспадарску. Сад, дагледжаны агарод, цапліца з металічным каркасам і цалкам са шкла. Гаспадарчая пабудова, бо хлявом гэта не назавеш.

Там ёсць летняя кухня і творчая майстэрня, вальер, дзе жывуць і гуляюць куры. Вальер з усіх бакоў і верх абцягнутыя сеткай ад каршуноў. У канструкцыі задзейнічаны дрэвы, што растуць побач з дачай. Прыгожа і ў цяньку.

Каля ўтульнага і вельмі прыгожага дома гаспадар зрабіў невялічкі басейн для рыбак, за якім можна назіраць. Там растуць водарасці і зроблены гроцік, куды рыбкі могуць схавацца. Уся канструкцыя аздобленая камянямі. Твор мастацтва ды і толькі.

Звычайна мы наведвалі дачу ў дзень нараджэння, 6 ліпеня. **Мікола Аўчыннікаў**, мастак, **Рыгор Мяжуеў**, мастак і кіроўца і я, аператар і кіншчык.

У хаце была радня, сястра Маргарыта і дачныя суседзі.

Жонка Кастуся Іванавіча **Надзея Рыгораўна**, былая настаўніца, яго верная спадарожніца па жыцці, з дачнага агароду стварала гасцям прыгожы купецкі стол, нават шкада было разбураць гэтыя кампазіцыі, каб іх з’есці. Было ўсё: бульба, чарка, скварка і прыгожыя словы.

**Кастусь Іванавіч прасіў не жадаць яму сто год жыцця, бо такое бывае не часта, ды яшчэ з хворым сэрцам. Прасіў толькі, як ён казаў: “На мінімальную дыстанцыю, дажыць да наступнага дня нараджэння”.**

Мне пашчасціла зняць на відэакамеру некалькі сюжэтаў на дачы, у майстэрні, доме-музеі Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне, куды мастак падарыў свае творы.

З лёгкасцю, без усякіх паўтораў, запісалі на камеру ўспаміны Кастуся Харашэвіча пра Ядвігу Раздзялоўскую і Юрася Герасіменку-Жызнеўскага.

Здымаць мастака адно задавальненне. Прыгожы твар, белыя валасы, прамовы, выбудаваныя па форме і змесце, і ніякай блытаніны ў тэксце. Талент – ён талент ва ўсім.

Тэма Радзімы і Бацькаўшчыны святая для кожнага творцы. 50 год таму паэт **Алесь Ставер** падарыў мне машынапісны тэкст свайго верша “Жураўлі на Палессе ляцяць”, дадаўшы, што **Ігар Міхайлавіч Лучанок** павінны напісаць музыку.

“Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць, зразумееш тады, чаму з выраю, жураўлі на Палессе ляцяць”... Які глыбокі сэнс у гэтых таленавітых радках. Ганаруся тым, што быў добра знаёмы з Алесем Сяргеевічам Ставерам. А калі гэту песню выканаў вакальна-інструментальны ансамбль “Песняры” пад кіраўніцтвам **Уладзіміра Мулявіна**, яна стала неўміручай.

Вось такую неўміручасць сваім жывапісным творам надаў наш мастак патрыёт Беларушчыны і роднага краю Кастусь Іванавіч Харашэвіч.

Ім напісана больш за 500 жывапісных твораў, графікай жа не займаўся.

Ён казаў: “Мая зброя – колер”. Сярод твораў: “Выступленне Браніслава Тарашкевіча перад сялянамі Заходняй Беларусі”, “Кастусь Каліноўскі”, “Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач”, “Вязынка. Хата Янкі Купалы”, “Мой родны кут”, “Лета ў Яхімоўшчыне”, “Каля млына”, “Пушча”, “Завулак у Вільні”, “Пахмурны дзень у Івянцы”, “Гасцінец”, “Дарога ў Гальшаны” і шмат іншых.

Кастусь Харашэвіч нарадзіўся 6 ліпеня 1927 года ў вёсцы Літва Маладзечанскага раёна. У 1958 годзе закончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Ад 1962 года ўдзельнічаў у рэспубліканскіх мастацкіх выставах. У 1969 годзе прыняты ў Саюз мастакоў. Уваходзіў у склад мастакоўскай суполкі “Пагоня”. У 1999 годзе быў узнагароджаны медалём Беларускага Саюза мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”.

Імя Кастуся Харашэвіча занесенае ў сусветную энцыклапедыю сучаснага мастацтва. У 1999 і 2003 гадах прысуджаная спецыяльная прэмія “Талент” Маладзечанскага гарадскога выканаўчага камітэта ў намінацыі “Мастак года”.

Творы мастака захоўваюцца ў мастацкім фондзе і Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне, а таксама ў прыватных калекцыях за межамі Беларусі.

Кастусь Іванавіч добра валодаў многімі музычнымі інструментамі, працаваў настаўнікам малодшых класаў, меў талент паэта і пісьменніка. Мог з дакладнасцю запілаваць рамку і аформіць любы свой твор, акрамя гэтага быў заўзяты рыбак.

Калі чалавек нарадзіўся таленавітым, ён мастак ва ўсім. І трэба заўсёды памятаць, што яму богам дадзена больш, чым нам.

Кастусь Харашэвіч – гонар не толькі Маладзечаншчыны, але і ўсёй роднай Беларусі.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**былы выкладчык цымбал, пенсіянер, Маладзечна.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| ВІЛЕЙКА | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2101, 1972 г.в., у добрым стане, бэжавы колер. Т. Вэлком (8-029) 9862628, МТС (8-033) 6053526.

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ВАЗ-21063, КПП 5 ступ. ВАЗ, рухавік ВАЗ, раздатка ГАЗ-69. Нядорага. Т. (8-033) 3145596.

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Рэно-1,9, 1994 г.в., 1,7 лБ, 1500 руб. Т. (8-044) 7383788.

• Сітраэн-Ксара, 1999 г.в., у выдатным стане. Т. (8-029) 2689778.

• Фіят-Брава, 1996 г.в.,1,4Б, цалкам перавараны, 2100 бел. руб, торг ля капота. Т. (8-025) 7416078.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*

• Аўтамабіль, мікрааўтобус у любым стане. Т. (8-029) 3883300.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*

• Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*

• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

Прадам **ДАЧУ**
паблізу Вілейкі, Плікавічы.
Участак 10 сотак.
4 км да вадасховішча.

Т. (8-029) **651 20 36**.



## ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9267289.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5544622.*

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, еўрарамонт, магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029)2608095.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв.м. Т. (8-029) 6795426.*

• Гараж у ГК №28 у Маладзечне, новы. Т. (8-029) 8548742.*

• Дом в. Раеўшчына, 2 км ад Маладзечна, участак 25 сотак, 43000 руб, альбо абмяняю на кватэру ў Маладзечне. Т. Лайф (8-029) 2727789

• Дом 100 кв. м, газ, водазабеспячэнне, каналізацыя, цяпліца, альтанка, 11 сотак зямлі. Т. Вэлком (8-044) 7155621, (8-029) 6499848.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна, 24 соткі агарода, гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, газапровод побач. Цана дагаворная. Т. (8-0176) 755866.*

• Дом у в. Седзіца. Тэрмінова. Т. (8-029) 5761733, (8-029) 5668819.

• Дом у в.Маркуны Астравецкага раёна на беразе р. Вілія. Т. (8-044) 4781305.*

• Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у вёсцы, 17 км ад Смаргоні, 40 км ад Маладзечна.Т (8-029) 2608095.

• Дом у Вілейцы 70 кв.м, бервяно, участак 15 сотак, сад, калодзеж, цана 28 тыс. бел. руб. Т. (8-01771) 21293, (8-01771) 54399.*

• Дом у г. Бярозаўка Лідскага раёна, 18 сотак, камунікацыі, паблізу возера і рака Нёман. Т. +37060468286, +37060316004 (Літва).

• Дом у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 5640458.*

• Паўдома ў Вілейцы, цэнтр горада, 10 сотак зямлі. Т. (8-029) 2649248.

## ЗДАМ

• Памяшканне 130 кв.м, можна пад СТА альбо прадам. Т. (8-033) 3549222.*

• У арэнду памяшканне на рынке райпо г.Маладзечна, 15 кв.м. Ёсць інтэрнэт і відэаназіранне. 200 рублёў у месяц. Т. (8-029) 6578329.




## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А.*

• Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакал. Баян. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015. Куліковіч Т.І.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Відэа-фотаздымка ўрачыстасцяў, мерапрыемстваў. Т. (8-029) 6201941.*

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

## ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• МБ-Спрынтар, суцэльнаметалічны, 4,20х1,75х1,65 м. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*



• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаю ўкладку пліткі і абліцоўку сцен. ИП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці (металачарапіца, андулін, шыфер, кампазітная і гнуткая чарапіца). Рамонт старых дахаў. Аддзелка фасада сайдынгам, блокхаўсам, панэлямі ПВХ. Выезд, замер, дапамога ў выбары матэрыялу, дагавор, гарантыя. ІП Місюкевіч Я.В. УНП 691289699. Т. (8-029) 2567435.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Заліўка фундамента, пад'ём дома. Замена, мантаж даху усіх відаў. Кладка будынкаў з блокаў, аддзелка, кладка тратуарнай пліткі, борта, зварка варот, калітак і іншых металічных вырабаў. Закупка і дастаўка матэрыялу. Кансультацыя па любым пытанні. ІП Карабухін А.А. УНП 19149472З. Т. (8-033) 6032254 Аляксандр, (8-029) 2242292 Андрэй.

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Замена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-033) 6228190. Уладзімір.*

# Адзначылі 20-годдзе выставачнай залы

ВІЛЕЙКА

**18 мая віляйчане, якія цікавяцца культурным жыццём раёна, сабраліся ў выставачнай зале імя Сілівановіча. Яны адзначалі 20-годдзе гэтай падзеі.**

Работнікі музея паказалі відэа 1997 года з адкрыцця залы. Некаторыя наведнікі пазнавалі сябе на кадрах 20-гадовай даўніны.

Перад гасцямі выступалі цяперашні дырэктар музея **Надзея Аўдзей**, старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**. Дырэктар цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч** праспявала "Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались", а зала падхапіла песню.

Мастак **Эдуард Мацюшонак** стаў першым, чые працы выстаўляліся ў выставачнай зале. І праз 20 год ён уручыў музею адну са сваіх прац. Творца падкрэсліў: першае, што ён пытаецца пра той ці іншы горад, – ці ёсць там выставачная зала. І што для Вілейкі зала стала пляцоўкай для аднадумцаў.

**Яўген Ігнатовіч** узначальваў музей, калі зала адкрылася. Ён расказаў, што спачатку на сесіі Савета дэпутатаў будынак пад залу музей не атрымаў. Тады яго работнікі пайшлі на хітрык: пачалі запрашаць у музей па адным дэпутаце, паказваць музей і звяртаць увагу, як у будынку цесна. Пасля гэтага сесія прагаласавала на карысць выставачнай залы.

За час працы выставачнай залы адбылося больш за 200 выстаў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**20 год таму, калі выставачная зала пачала працаваць, Яўген Ігнатовіч быў дырэктарам музея.**

# Маладзечанцы з конкурсу бытавога танца прывезлі тры дыпломы

МАЛАДЗЕЧНА

**21 мая ў Барысаве адбыўся абласны конкурс бытавога танца "Мінская кадрыля". Маладзечна прадстаўлялі ўдзельнікі этнаграфічнага клуба "KOLA" Воля Трубач і Дзяніс Краўчонак.**

Як прызнаюцца самі ўдзельнікі, для іх конкурс быў сапраўдным выпрабаваннем.

– Па-першае, сваёй чаргі для выступлення прыйшло чакаць дзве гадзіны, так шмат выступоўцаў было, – расказвае Воля Трубач. – Ужо ногі пачыналі трэсціся ад хвалявання. Па-другое, адчулі сябе па другі бок барыкадаў: падчас танцаў, майстар-класаў, якія арганізоўвае этнаграфічны клуб, вучым аматараў танцаў, як трэба рухацца, як выконваць народны танец. А ў гэтым выпадку ў нейкай ступені самі былі ў ролі навучэнцаў.

Як прызнаўся Дзяніс Краўчонак, гэта яго першы досвед удзелу ў падобных мерапрыемствах.

– Зразумела, што вельмі хваляваўся, перажываў за вынікі, – адзначае Дзяніс. – Але вельмі падтрымалі словы Волі: "Мы танцуем у першую чаргу не для публікі, а для сябе. Толькі так можна па-сапраўднаму перадаць сваe пачуцці".

Пара выканала чатыры танцы. Сярод якіх вальс, імправізаваныя лявоніха, полька, кахачачка.

– Калі выконваеш першы танец, задумваешся над тым, як рухаешся, прыглядаешся да таго, як успрымае публіка, – дзеліцца Воля. – На апошнім танцы варта толькі прыслухацца да музыкі, і цела само рухаецца ў такт, танцуеш у сваё задавальненне.

Маладзечанцы адзначылі, што з камандай-саперніцай з Барысаўскага раёна яны вельмі адрозніваліся ў стылі выканання: у маладзечанцаў быў больш спакойны, няспешны тэмп, у барысаўчан – экспрэсіўны.

Воля Трубач і Дзяніс Краўчонак прызналіся, што не спадзяваліся на перамогу, бо было няшмат часу, каб падрыхтавацца да конкурсу – праводзілі танцы ў Маладзечне, Вілейцы, Лагойску, арганізоўвалі ноч танцаў на Валожыншчыне. Галоўнае было, прывезці каштоўны досвед ад калег, павучыцца іх майстэрству.Назіралі за іншымі выступоўцамі. Некаторыя танцы запісвалі на відэа.

На конкурсе Дзяніс Краўчонак і Воля Трубач атрымалі дыпломы першага месца за выдатнае выканальніцкае майстэрства і значны ўклад у захаванне традыцыйных народных танцаў.

Дыпломам узнагароджаны і этнаграфічны клуб "KOLA" за беражлівае стаўленне да мясцовых песенных традыцый, плённую працу па захаванні і развіцці нацыянальнай культуры і актыўны ўдзел у абласным фестывалі фальклорнага мастацтва "Фальклорная талака".

Народныя фальклорна-этнаграфічыя ансамблі "Крынічанька" і "Маркаўчанка" з Маладзечаншчыны падчас абласнога фестывалю фальклорнага мастацтва "Фальклорная талака" пацвердзілі статус заслужаных калектываў.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Мікалай Апяцёнак запрашае землякоў на сустрэчу ў Будзішчы

ВІЛЕЙКА

27 мая ў цэнтры вёскі Будзішча на Вілейшчыне зладзяць традыцыйную сустрэчу землякоў.

Ужо некалькі год такія сустрэчы ладзіць маладзечанскі прадпрымальнік **Мікалай Апяцёнак** і староста вёскі **Наталля Дуровіч**.

– Сёлета ў цэнтры вёскі мы паставім памятны знак з назвай "Будзішча" з радком з верша паэта Рыгора Барадуліна "Трэба дома бываць часцей...", – сказаў Мікалай Апяцёнак.

Па яго словах, да нядаўняга часу годам першага ўпамінання Будзішча быў 1795 год. Тады ў вёсцы былі чатыры двары і тры прозвішчы: Клімёнак, Белановіч і Дуровіч.

Аднак нядаўна брат старасты вёскі **Уладзімір Дуровіч**, які жыве ў Санкт-Пецярбургу, адшукаў у архіве дакументы на польскай мове. Там Будзішча згадваецца раней.

– З большасцю людзей, якія паходзяць з Будзішча, я падтрымліваю адносіны, – расказаў Мікалай. Напрыклад, з **Аляксандрам Сонічам**. Ён цяпер жыве ў расійскім Златавусце і кіруе заводам, дзе робяць дарагую зброю з каштоўных металаў.

Амаль штогод на свята прыязджае намеснік начальніка раённага аддзела Маладзечанскага Следчага камітэта **Сяргей Вайтовіч**. У Будзішчы жыла яго бабуля.

Збірацца на сустрэчу будуць у 12:00. Тэлефоны арганізатараў: **8 (029) 606-23-55** – Наталля Дуровіч, **8 (044) 565-88-35** – Мікалай Апяцёнак.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пра што пытаюцца віляйчане ў чыноўнікаў

ВІЛЕЙКА

– Ад 9:00 да 12:00 былі толькі два званкі, – распавядае пра работу "прамой лініі" ў суботу, 20 мая, намесніца старшыні Савета дэпутатаў **Таццяна Цітуленка**.

Якія праблемы ўсё ж хвалявалі жыхароў Вілейкі?

У першага было пытанне да службы ЖКГ. Зацякае ў дом, таму хацеў даведацца наконт рамонту.

Другі чалавек меў пытанне да службы абароны спажыўцоў. Яго цікавіла, ці павінны пакупнік плаціць у магазіне за рэч, якую выпадкова скінуў з прылаўка і сапсаваў.

– І адно, і другое пытанне не ў маёй кампетэнцыі, кажа Таццяна Цітуленка. – Аднак падчас "прамой лініі" грамадзянін можа звярнуцца да кіраўніка абсалютна з любым пытаннем.

Калі чыноўнік не можа адказаць, бо праблема не датычыцца яго службовых абавязкаў, ён перадае пытанне ў адпаведную службу.

Вусны зварот запісваюць на рэгістрацыйна-кантрольную карту. Тут пазначаюць дадзеныя чалавека, які звярнуўся, а таксама дату, кароткі змест праблемы і арганізацыю, якой накіруюць зварот.

Карткі перадаюць у "Адно акно" райвыканкама. Там кожную сітуацыю павінны ўзяць на кантроль і адказаць на пытанне грамадзяніна.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча" пройдзе ў дзясяты раз

ВІЛЕЙКА

Ад 3 да 21 чэрвеня працягнецца штогадовая беларуска-літоўская экспедыцыя па Віліі.

Яна пачнецца ад вёскі Камена 3 чэрвеня ў 12:00.

На наступны дзень падарожнікі прыбудуць у Вілейку. Увечары тут запланавалі культурную праграму.

5 чэрвеня падарожнікі рушаць далей. Экспедыцыю завершаць у Коўне (Каўнасе).

Далучыцца можа кожны ў любым месцы. Але трэба мець уласныя сродкі для плавання – катамаран, каноэ, байдарку. Па словах кіраўніка, абяцалі паўдзельнічаць літоўцы.

Па ўсіх пытаннях можна звярнуцца да кіраўніка экспедыцыі **Міхаіла Петуха** па тэлефоне **(8029) 961-06-03**.

Аддзел інфармацыі.

# "Як спалілі стог сена, то і курыць перахацелася"

## Жыхары рэгіёна пра выпадкі, пасля якіх расхацелася курыць на ўсё жыццё

МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА

**Усе дзеці хочуць стаць як хутчэй дарослымі, а таму пераймаюць дарослыя звычкі. Часта яны бываюць не вельмі добрымі, напрыклад, курэнне.**



Фота "Усе кураць" 1910 года захоўваецца ў Метраполітэн-музеі ў Нью-Ёрку. Аўтар Люіс Хайн, штатны фатограф амерыканскага Нацыянальнага камітэта дзіцячай працы. Ён першы ў гісторыі ЗША распачаў кампанію супраць эксплуатацыі дзяцей на вытворчасці.

Ну прызнайцеся сабе шчыра, хто ў дзяцінстве хаця б раз не імітаваў, як кураць дарослыя, напрыклад, засунуўшы галінку дрэва ў рот і нібы выпускаючы дым? І падавалася, што табе ўжо не пяць, а цэлых сем гадоў – дарослы. Як толькі пайшла мода на жавальныя цукеркі ў выглядзе цыгарэты, дзеці стаялі ў чэргах па іх. Хто ж не хоча пасталець?

Да Сусветнага дня без табака, які адзначаюць 31 мая, мы зрабілі падборку гісторый, якія пра тое, што на ўсё жыццё адбіла жаданне пакурыць. Магчыма, у адной з іх вы пазнаеце сябе.

### "Самаробныя цыгарэты з апалых лістоў не прыкурваліся, затое сена загарэлася мігам"

Гісторыю расказала стылістычны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" **Марыя Бераснева**:

"У дзяцінстве маім выхаваннем займалася пераважна бабуля, бо бацькі былі занятыя на працы ад 9 раніцы да 6 вечара, субота ў тыя часы таксама была рабочым днём. Чамусьці я нейкі час лічыла, што бабулю слухацца неабавязкова, і рабіла тое, што мне ўздумаецца. Хаця яна мне кожны дзень гразілася, што ўсё раскажа бацькам.

Дык вось аднойчы я са старэйшай сяброўкай Галяй вырашылі пакурыць. Хаця дома ў нас ніхто не курыў, ды і ўвогуле бацька ніколі не курыў. Але я ж бачыла, што кураць дарослыя.

Мы назбіралі апалых лістоў з бярозы і пачалі закручваць іх у кавалачкі нейкай паперы. Я ведала, дзе ляжаць запалкі. І хаця мне вельмі строга наказвалі іх не чапаць, я ўсё ж падцягнула крэсла і дастала іх з палічкі каля печы.

Пасля мы схаваліся за вялікі стог сена і пачалі прыкурваць. Цыгарэты нашы не прыкурваліся. Мы палілі запалкі адна за адной і, вядома ж, кідалі іх тут жа каля стога. Як загарэўся той вялізны стог сена, мы тады не ўцямілі.

Ён стаяў недалёка ад хат, за ім – лес. Полымя было такое, што вышэй за лес. Дарослыя з вёдрамі вады ляталі, як не паразбіваліся. Вядома, баяліся, каб хаця ж агонь на хаты не перакінуўся. Прыехала міліцыя. Мы адразу ж уцяклі ў лес і схаваліся там.

Была, напэўна, пятніца, і нашы суседзі рыхтаваліся якраз да вяселля – жаніўся стрыечны брат майго бацькі. У той жа час хто там купляў якую гарэлку, усе гналі самагонку. Дык вось і ў нашых суседзяў было нагнана самагонкі на вяселле. А тут міліцыя. Што было ўжо ва ўсіх перапалоху, то было.

Гэта свавольства мне добра ўрэзалася ў памяць. Дарослыя пра гэты выпадак не раз ўзгадвалі. Ніхто ж спачатку не ведаў, ад чаго той стог сена загарэўся. Але другі стрыечны брат майго бацькі ішоў са школы і бачыў мяне з Галяй за стогам.

Нас нават не пакаралі, мае бацькі і Галіна маці былі рады ад таго, што мы прыйшлі дадому. Звечарэла, сцямнела, ноч на дварэ, а дзяцей нідзе няма. Яны ўжо перажывалі, ці не здарылася што з намі. А мы сядзелі ў лесе і назіралі, што робіцца, а пасля і паснулі там.

І якое ж маё здзіўленне было праз шмат гадоў, калі, пераглядаючы старыя фотаздымкі, я ўбачыла сябе на тым вяселлі. З адваротнага боку фотакарткі быў пазначаны год і месяц. Аказваецца мне было чатыры гады, а маёй сяброўцы Галі – шэсць.

**Вось такі быў мой першы досвед курэння. І нават падчас вучобы ў інстытуце, калі ўжо многія мае аднакурсніцы пакурвалі, мне зусім не хацелася гэтага рабіць. Заўсёды перад вачыма паўставалі вялізныя языкі полымя".**

### "Трымалі цыгарэты палачкамі, каб не смярдзелі рукі"

Маладзечанка **Наталля Цар** першы раз паспрабавала курыць у восьмым класе разам з сяброўкай.

– Трымалі цыгарэты палачкамі, каб не смярдзелі рукі, – расказвае жанчына. – Не сказаць, каб курыць вельмі падабалася, проста было адчуванне, што з выкуранай цыгарэтай становішся больш дарослай. А пасталець хацелася як мага хутчэй.

Аднак прывыкнуць да дрэннай звычкі ў Наталлі не атрымалася – сяброўка паступіла ў тэхнікум пасля дзявятага класа. А адной працягваць было не вельмі цікава.

– Другі раз спрабавала курыць, калі наглядзелася серыялаў, – узгадвае маладзечанка. – У герояў фільмаў раніца пачыналася з кубачка кавы і цыгарэты альбо папяросы. Падцэліла, калі бацькоў не будзе дома, і вырашыла паспрабаваць. Заварыла каву, узяла цыгарэты і палезла на гарышча. Зрабіла глыток кавы і зацягнулася цыгарэтай. Як пачало ўсё круціцца ў галаве, было так дрэнна, што думала і не злезу з таго гарышча. А трэба ж злезці, бо хутка вернуцца бацькі, даведаюцца, што са мной, атрымаю, дык атрымаю. Так да вечара і праседзела на гарышчы, пакуль галава не перастала круціцца. Пасля гэтага ніні. Не тое, што курыць не хочацца, больш таго, як адчую пах цыгарэт – становіцца дрэнна.

### Пакурыў і здаў сябра бацьку

Паспрабаваць пакурыць хлопцы з аднолькавымі прозвішчамі з вёскі Заброддзе Вілейскага раёна **Барыс**, **Вадзім** і **Ігар Адамовічы** вырашылі пасля першага класа.

Падрыхтаваліся загадзя: знайшлі цыгарэты, з дома ўзялі запалкі. Каб ніхто не ўбачыў, чым займаюцца, зашыліся ў жыта, дзе і пачалі раскурваць першую ў сваім жыцці цыгарэту.

Усё б нічога, аднак, удосталь накурыўшыся, Вадзім пакінуў сяброў. Ідучы па полі, сустрэў бацьку Ігара, якому і паведаміў навіну: "А ваш Ігар у жыце курыць!"

Адшукаць хлопцаў было няцяжка – з жыта ішлі белыя клубкі дыму.

– Ой, і атрымаў я тады, – узгадвае Ігар. – Ой, і накруцілі мне вушы. Справа ў тым, што бацька ніколі ў роце цыгарэту не трымаў, лічыў агідным, а тут сын з цыгарэтай у зубах. Бацьку баяліся, вельмі строгі быў, а тут ажно пазелянеў ад злосці: "Я з цябе, шчанё малое, дурноту выб'ю! Бацька не курыць, а ён у сем гадоў хутка на цыгарэты страляць будзе. Я табе настраляю!" Пасля таго выпадку як замовіла – бацьку ўзгадваю.

**І напрыканцы нагадваем: курэнне шкодзіць здароўю. Жыццё адно, старайцеся не траціць яго на глупствы і дрэнныя звычкі.**

Падрыхтавала Галіна СУДНІКОВІЧ.

# Армія Краёва ў Налібоцкай пушчы і яе наваколлі

ВАЛОЖЫН

*Заканчэнне. Пачатак у №№19, 20.*

**Частка насельніцтва Віленшчыны, сярод яе прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў – літоўцы, палякі, беларусы, – адкрыта падтрымала германскую акупацыйную ўладу.**

Большасць паставілася нейтральна. Але вельмі шмат людзей, якія былі настроеныя да захопнікаў варожа, сталі на шлях падпольнай барацьбы.

### Віленская акруга Арміі Краёвай

Частка літоўцаў не захацела супрацоўнічаць ні з немцамі, ні з палякамі, ні з камуністамі. Яны стварылі сваю вайсковую падпольную арганізацыю – Літоўскую падпольную армію (літоўская абрэвіятура – ЛЛА). Склад савецкіх партызанскіх фарміраванняў у Літве амаль на 90% складаўся з яўрэяў, якім удалося вырвацца з гета.

У Віленскай акрузе АК (камендант – падпалкоўнік **Аляксандр Кржыжаноўскі**, Вільк, (1895-1951) у 1942 годзе існаваў Ашмянскі інспектарат "Ф". Ён складаўся з трох паветаў: Ашмянскага, Вілейскага, Маладзечанскага. Кіраваў інспектаратам – маёр **Чэслаў Дэбіцкі** (Худы, Ярэма). Кожны павет у арганізацыйнай структуры супадаў з абводам. Камендантам Ашмянскага абводу быў падпаручнік **Тадэвуш Чэрнік** (Ціш). Маладзечанскі абвод, кодавая назва "Млека" ("Малако") даходзіў да Налібоцкай пушчы. Ён складаўся з двух асяродкаў – "Маладзечна" і " Ракаў" (з пляцоўкамі "Ракаў", "Дубрава", "Радашкавічы", "Яршэвічы", "Краснае").

Маладзечанскі абвод узначальваў паручнік **Уладыслаў Бурак** (былы студэнт юрыдычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта), падпольная мянушка Гаеўскі. У снежні 1942 года яму на дапамогу быў накіраваны кадравы афіцэр паручнік **Адам Вальчак** (Нетапец, Сэмп, Мірскі) (1915-2003). Адам Вальчак наладзіў кантакт з ксяндзом **Віктарам Гагалінськім** (у будучым быў капеланам інспектарату "Ф" і ашмянскага злучэння АК) і з яго дапамогай пасяліўся ў маёнтку Бальцары. Тут быў і цэнтр канспіратыўнага кіраўніцтва абводам. Вальчак наладзіў сувязь з падполлем ў Івянцы і нават з савецкім атрадам імя Сталіна.

### Злучэнні Віленскай акругі

Летам 1943 года ў лясным масіве паблізу Гарадка (сучасны Маладзечанскі раён) з'явіўся партызанскі атрад АК пад кіраўніцтвам падхарунжага **Тадэвуша Баравінскага** (Сьвіт) – каменданта асяродка Ракаў. Праз некаторы час да яго далучыўся з некалькімі людзьмі **Анджэй Кутзнер** (Малы), які стаў намеснікам Сьвіта.

У пачатку 1944 года Віленская акруга АК была канчаткова сфарміраваная. У адрозненне ад Навагрудскай акругі, тут замест батальёнаў ствараліся брыгады. Канчаткавая яе структура ў 1944 годзе выглядала так.

Злучэнне №1 – Віленскае (інспектарат "А" – Віленска-Тракайскі). Камандзір злучэння маёр **Антоні Аляховіч** (Пахарэцкі), начальнік штаба капітан **Аляксандр Васілеўскі** (Алясінскі). У склад гэтага злучэння ўваходзілі: 3-я брыгада, камандзір паручнік **Грацыян Фруг** (Шчэрбец); 5-я брыгада, камандзір **Зыгмунд Шандзеляж** (Лупашка); 7-я брыгада, камандзір паручнік **Вільгельм Тупікоўскі** (Вільгельм).

Злучэнне №2 – Паўночнае (інспектараты "А" і "Б" і тэрыторыя Свянцанскага, Браслаўскага, Дзісненскага і Пастаўскага абводаў). Камандзір злучэння маёр **Мечыслаў Патоцкі** (Вэнгельны), начальнік штаба паручнік **Ян Драздовіч** (Гервазі). У склад злучэння ўваходзілі: 1-я брыгада (Віленская), камандзір паручнік **Чэслаў Громбшэўскі** (Юранд), 580 чалавек; 4-я брыгада (Нарач), камандзір падпаручнік **Лёнгін Вайцяхоўскі** (Ронін), 620 чалавек. У маі 1944 года гэта брыгада была падпарадкаваная камандзіру 5-й брыгады Зыгмунду Шандзеляжу; 23-я брыгада (Браслаўская), камандзір паручнік **Віктар Кісель** (Святолдыч), ранейшы камандзір ротмістр **Мар'ян Кісялеўскі** загінуў 21 чэрвеня 1944 ў баі пад Лакацінамі, 410 чалавек; 34-я брыгада (Дрысвяцкая), камандзір паручнік **Казімір Краўзэ** (Ваўжыцкі), 320



Паручнік Грацыян Фруг (Шчэрбец), камандзір 3-й брыгады Віленскай акругі АК.



Падпалкоўнік Аляксандр Кржыжаноўскі (1895 – 1951), камендант Віленскай акругі АК




Карта-схема Віленскай акругі Арміі Краёвай

чалавек; 36-я (кадравая) брыгада, камандзір паручнік **Вітольд Кеўліч** (Вуяк), 360 чалавек.

Злучэнне №3 Ашмянскае (ахоплівала тэрыторыю Ашмянскага, Вілейскага, Маладзечанскага абводаў). Камандзір злучэння маёр **Чэслаў Дэбіцкі** (Ярэма), начальнік штаба капітан **Міхаіл Квакшыс** (Каваль). У склад злучэння ўваходзілі: 8-я брыгада (Ашмянская), камандзір паручнік **Вітольд Туронак** (Тур), 500 чалавек; 9-я брыгада (Ашмянская), камандзір харунжы **Ян Каенда** (Малы); 10-я брыгада (Ашмянская), 12-я брыгада (Ашмянская), камандзір паручнік **Геронім Раманоўскі** (Цэрбер), 400 чалавек; 13-я брыгада (Маладзечанская), камандзір паручнік **Адам Вальчак** (Нетапеж), каля 600 чалавек.

Начальнікам штаба Віленскай акругі АК быў падпалкоўнік **Любаслаў Красоўскі** (1897-1965).

**У вайсковых падраздзяленнях АК на тэрыторыі Віленскай акругі было больш за 9 000 жаўнераў. Канспіратыўная сетка колькасна пераўзыходзіла ўзброенныя фарміраванні ў тры разы.**

У Віленскай акрузе АК прыходзілася мець справу не толькі з акупацыйнымі ўладамі і савецкімі партызанамі, але і з вайсковымі фарміраваннямі літоўцаў. Польска-літоўскія адносіны на працягу ўсяго міжваеннага 20-годдзя былі не ў лепшым стане. Паміж палякамі і літоўцамі існавала міжнацыянальная варожасць, якая адбівалася нават на бытавым узроўні.

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага краязнаўчага музея.**

**Выявы забяспечаны Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.**

● КАЛЯНДАР

**26 МАЯ**

**75 гадоў** з дня нараджэння пісьменніка **Івана Іванавіча Галубовіча** (1942 – 2014), які друкаваўся пад псеўданімам Янка Баравы. Нарадзіўся і вырас у вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна, тут жа і вучыўся ў васьмігадовай школе. Пасля заканчэння Глыбоцкага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі працаваў трактарыстам на цаліне. Служыў у войску. Працаваў на Алтайскім трактарным заводзе ў г. Рубцоўску. Пасля заканчэння Мінскага фінансава-эканамічнага тэхнікума працаваў бухгалтарам у Маладзечне. Затым паступае на факультэт журналістыкі БДУ. Яшчэ ў школе захапіўся журналістыкай і літаратурай. Пісаў пра тое, што нас акружае, пра лес, яго багацце, прыгажосць, пра раслінны і жывёльны свет. Выдаў кнігі прозы для дзяцей і дарослых. Сярод іх такія, як "Пастарайся стаць чалавекам", "Гром на світанку", "Зязюля дзетак шукала". Урыўкі з твораў Янкі Баравога ўключаны ў школьныя падручнікі па беларускай мове. Пахаваны на могілках у вёсцы Дубрава. Так коратка пра пісьменніка напісаў Іосіф Паўкалас з вёскі Навасёлкі-1 у сваім невялічкім артыкуле.

**950 гадоў** спаўняецца Мінску (упершыню ўпамінаецца пад 1067 годам).

**28 МАЯ**

**90 гадоў** з часу стварэння (1927) Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР (з мая 1993 года – Беларускі дзяржаўны архіў, з чэрвеня 1995-га – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь).

**30 МАЯ**

**80 гадоў** з дня нараджэння (1937) **Ігара Раеўскага**, дырыжора, хормайстра, заслужанага артыста Беларусі.

**75 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Крывенкі** (1942), беларускага мастака, партрэтыста. Скончыў мастацкую школу пры Віленскім мастацкім інстытуце (1959). Скончыў два факультэты (філасофіі і эстэтыкі) Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КП Літвы, у 1990 годзе выйшаў з радоў КПСС. Прафесійны друкар мастацкага друку. Сярод яго работ – Генадзь Каханоўскі, "Васіль Быкаў і Барыс Кіт у Франкфурце-на Майне", "Зоська Верас", "Канстанцыя Буйло", "Кастусь Акула", "Міхась Забэйда-Суміцкі", "Партрэт генерала Францішка Кушаля", , "Паўліна Мядзёлка" і інш. За ўсе гады ён напісаў больш за 264 жывапісныя і графічныя партрэты.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Як ільянскія школьнікі займаюцца навукай

ВІЛЕЙКА

**Ад высокіх здольнасцяў вучня па якім-небудзь прадмеце да высокіх вынікаў у гэтай справе вельмі доўгі і працаёмкі шлях.**

У Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаця склалася сістэма работы па падрыхтоўцы вучняў да конкурсу даследчых прац.

Першы крок – гэта ўдзел і перамога ў школьным конкурсе, які традыцыйна ладзяць у нашай школе вясной. Гэта традыцыя склалася ад 2003 года.

На школьным этапе падводзіцца вынік даследчай дзейнасці за навучальны год вучняў 1-11 класаў і іх настаўнікаў.

Сёлета на раённым конкурсе даследчых прац перамагла работа **Наталлі Буркевіч** "Даследаванне пагранічнага кіпення нязмешвальных вадкасцяў".

**Пахвальныя лісты атрымалі Марыя Шмаргалава за працу "Нашы землякі – члены Саюза пісьменнікаў Беларусі" і Марыя Кіпель за працу "Фільм як спосаб інтэрпрэтацыі рамана Міхаіла Шолахава "Ціхі Дон".**

Ад 2011 года вучні ільянскай школы пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі **Люцыі Маркевіч** удзельнічаюць у Міжнароднай канферэнцыі "Вялікая Айчынная вайна 1941-1945 гадоў у гістарычнай памяці народа".

За гэты час вучні атрымалі шмат узнагарод. Дыпломы ёсць у **Аляксея Гаўрыліка, Паўла Маскаленкі, Веранікі Татур.**

У маі адбылася юбілейная дзясятая Міжнародная канферэнцыя.

**Вучань 9 класа Максім Вайцяхоўскі прадстаўляў сваю працу "Франтавыя дарогі землякоў". Яе журы адзначыла пахвальным водгукам.**

11 мая ў Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы зладзілі навукова-практычную канферэнцыю навучэнцаў "Лакальная жывая гісторыя" ў рамках беларуска-германскай выставы "Лагер смерці Трасцянец: гісторыя і памяць".

Нашу школу прадстаўлялі Максім Вайцяхоўскі і **Кірыл Яцэвіч** пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі Люцыі Маркевіч. Вынікі іх даследаванняў адзначылі падзякай і сертыфікатамі удзельнікаў.

Некаторыя вучні школы на працягу двух гадоў займаліся ў дыстанцыйнай школе "Музейная справа", арганізаванай установай адукацыі і рэспубліканскім цэнтрам экалогіі і краязнаўства.

Разам з настаўніцай школьнікі вывучалі асновы працы музейнага работніка, выконвалі кантрольныя работы, знаёміліся з рознымі музеямі свету. Яны паспяхова закончылі школу, аб чым сведчаць сертыфікаты для выпускнікоў.

**Алена МІХАЛЁНАК,**
**намесніца дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця.**



Максім Вайцяхоўскі на канферэнцыі "Шлях да вытокаў."

# Ільянскі каледж наведалі кінолагі са Смаргоні

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

**Да навучэнцаў і педагогаў аграрнага каледжа прыехалі госці са Смаргоні.**

Гэта вайскоўцы з кіналагічнага цэнтра органаў памежнай службы смаргонскай вайсковай часці №2044. Памежнікі прыехалі не адны. З сабой яны прывезлі гадаванца – нямецкую аўчарку па мянушцы Патрык.

### Аўчаркі шукаюць наркотыкі і зброю

На сустрэчы навучэнцы даведаліся пра тое, што ў кіналагічным цэнтры рыхтуюць і перападрыхтоўваюць кінолагаў і службовых сабак па розных відах службы.

Сабак тут навучаюць шукаць чалавека па паху, вартаваць розныя аб'екты, знаходзіць наркотыкі і псіхатропныя рэчывы, зброю, боепрыпасы. Спецыялістаў навучаюць таму, як гадаваць сабак службовых парод.

Па словах памежнікаў, за час працы ў цэнтры падрыхтавалі больш за чатыры тысячы спецыялістаў-кінолагаў і больш за 1000 службовых сабак.

Штогод з удзелам чацвераногіх гадаванцаў цэнтра затрымліваюць кожнага чацвертага парушальніка дзяржаўнай мяжы і кожны трэці кантрабандны груз.

Спецыяльную перападрыхтоўку ў кіналагічным цэнтры праходзіць больш за 100 службовых сабак і каля 250 вайскоўцаў. Сярод іх ёсць і грамадзяне з-за мяжы.

Сваю кваліфікацыю яны неаднаразова пацвярджалі ў Беларусі, а таксама ў замежных краінах: Германіі, Аўстрыі, Расіі, Літве, Румыніі, Латвіі і Польшчы.

### Як смаргонскія шчанюкі з'язджаюць у Еўропу

Памежнікі расказалі, што яны ганарацца племянным фондам кіналагічнага цэнтра. Тут гадуюць і ўзнаўляюць самыя лепшыя пароды службовых сабак: нямецкіх, бельгійскіх, сярэднеазіяцкіх і каўказскіх аўчарак, рызеншнаўцэраў, кокер-спаніеляў, лабрадораў.



Намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце Алеся Нарэйка з Патрыкам.

Сёння памежнікі з дзесяці краін Еўрасаюза і блізкага замежжа купляюць тут шчанюкоў для сваіх гадавальнікаў.

Асабліва нас зацікавіла тое, у якіх умовах гадуюць службовых сабак. Як расказалі госці, на тэрыторыі цэнтра ёсць спецыяльныя кармакухня, басейн, інфекцыйнае і каранціннае аддзяленні, а таксама радзільня для сабак.

А яшчэ ветэрынарныя дактары маюць спецыяльнае абсталяванне, каб рабіць гадаванцам аналізы крыві і ўльтрагукавое даследаванне.

Ёсць навучальная пляцоўка для выбаркі рэчаў. Тут сабак вучаць па паху шукаць прадмет, які належыць пэўнаму чалавеку.

Каб навучэнцы больш дакладна ўявілі сабе працу кіналагічнага цэнтра, госці паказалі фільм пра гісторыю і сучаснасць установы.

### Патрыка ўвагай не абдзялілі

Аграрны каледж у Ілі і кіналагічны цэнтр у Смаргоні звязвае шматгадовае супрацоўніцтва. На яго базе праходзяць вайсковую службу многія былыя навучэнцы каледжа.

Спецыялісты-кінолагі прадэманстравалі паказальныя выступленні з аўчаркай. На газоне побач з каледжам Патрык паказаў, як ён рэагуе на каманды і ведае ўласныя службовыя абавязкі.

Быў час і на нефармальныя зносіны навучэнцаў з супрацоўнікамі цэнтра.

Не засталася без увагі і адна з самых галоўных гасцей – аўчарка Патрык. Было шмат ахвотных пагладзіць яе. А яшчэ памежнікі дазволілі ўсім жадаючым сфатаграфавацца з гадаванцам. І нават выкладчыкі не змаглі адмовіць сабе ў такім фотаздымку.

### Збіраемся на экскурсію ў Смаргонь

Па словах некаторых хлопцаў-навучэнцаў каледжа, пасля сустрэчы і зносін з гасцямі-памежнікамі яны таксама захацелі праходзіць вайсковую службу на базе цэнтра і ў далейшым звязаць сваю прафесію з дзейнасцю кінолагаў.

Тым больш, што адукацыя ветэрынара і заатэхніка, якую яны атрымаюць у каледжы, якраз спатрэбіцца для працы з сабакамі.

Гаспадары доўга не хацелі адпускаць гасцей і на развітанне дамовіліся пра новую сустрэчу. Але цяпер ільянскія навучэнцы з выкладчыкамі самі паедуць у Смаргонь. Тут ім абяцалі запамінальную экскурсію.

**Алена РЫСЯВЕЦ,**
**выкладчыца рускай мовы і літаратуры Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа.**



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

“Рэгіянальная газета” пачынае праект “Простыя рэчы”. Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі? Ці рэжаце траву для жывёлы у сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэтая рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта
Аксана ЯРАШОНАК

# Галенне і дзіцячыя ўспаміны: Мікалай Камінскі распавядае пра небяспечную брытву

МАЛАДЗЕЧНА

**У Мікалая Камінскага некалькі сучасных станкоў для галення. Адзін падарыла сям’я, другі – лепшыя сябры, астатнія – нават не памятае адкуль. Галіцца такімі прыладамі прыемна і зручна.**

Але часам майму субяседніку хочацца забыцца на ўсе гэтыя цуды сучаснай цывілізацыі. І тады ён дастае небяспечную бацькаву брытву.

– Гэту прыладу мой бацька **Пётр Камінскі**, ветэран вайны, прывёз з фронту ў 1946 годзе, – расказвае мужчына, трымаючы небяспечны інструмент. – Яна трафейная, нямецкая.

### Як брытва тры дзесяцігоддзі хавалася на стале

Такіх брытваў у бацькі было некалькі, прыгадвае Мікалай. І спачатку ўсе яны ляжалі ў зоне дзіцячай даступнасці. Да пэўнага часу. Бо аднойчы бацькі ўбачылі, як цікаўны сынок небяспечнай прыладай стругае палачку.

Тая брытва сапсавалася назаўсёды, а астатнія бацька пачаў хаваць ад дзяцей высока за бэлькі – драўляныя брусы пад столлю. Адна з іх, якраз тая, пра якую сёння расказвае Мікалай, так засталася ляжаць там некалькі дзесяцігоддзяў.

Справа ў тым, што ў пачатку 1970-х гадоў столь абшылі сухой тынкоўкай. Палічылі, што так будзе прыгажэй. Пра небяспечную брытву забыліся. Яна так і засталася пад столлю, хоць небяспекі для дзяцей ужо не ўяўляла: усе былі дарослыя.

Вярнуцца да ранейшага выгляду столі гаспадары вырашылі толькі ў пачатку 2000-х. Тады і трапілася яна на вочы пад адной з бэлек.

### Выпрабаванні на вастрыню

Вастрэнне такой брытвы патрабуе доўгага часу, вялікай засяроджанасці і цярпення, расказвае Мікалай. І каб не быць галаслоўным, дэманструе мне ўвесь працэс.

Спачатку прыбор вострыць асялком – спецыяльным дробназярністым, амаль гладкім, бруском. А пасля трэба брытву яшчэ і “даводзіць”.

Для гэтага Мікалай чапляе свой скураны рэмень за кручок у ванне і доўга водзіць па ім лязом брытвы то адным, то другім бокам. Каб атрымлівалася лепш, рэмень мазалі спецыяльнай пастай “ГОІ”, прыгадвае Мікалай. Па яго словах, працэс вастрэння і даводзення мог заняць ледзь не цэлы дзень.

Ну вось, справа і скончаная. Але як даведацца, ці дастаткова добра навастрылі брытву? Тут было некалькі спосабаў. Два з іх мне давялося ўбачыць.

> **Першы спосаб – акуратна правесці лязом па валасах на руцэ. Калі яны зразаюцца і ляцяць у розныя бакі, значыць брытву навастрылі добра.**

Другі яшчэ больш цікавы. З галавы адрывалі волас і клалі яго на лязо брытвы. А пасля на валасок трэба было падзьмуць. Калі ён развальваўся на дзве часткі, значыць, галіцца такой брытвай – адно задавальненне.

Брытва, якую навастрыў Мікалай, прайшла абодва выпрабаванні.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мікалай Камінскі даводзіць небяспечную брытву.

### Мыла, кубак, памазок… Што ўваходзіла ў абавязковы “набор” для галення

Паказвае Мікалай і абавязковыя прылады для галення небяспечнай брытвай: памазок, жалезны кубачак, кавалак мыла, люстэрка і газета.

У свой час даволі папулярнымі падарункамі для мужчын былі наборы для галення. Сюды ўваходзілі бляшаная талерка, кубачак, памазок.

З дзяцінства мужчына памятае, як галіўся бацька, пра што і распавядае мне:

– На стол ставілі невялікае люстэрка, клалі газету. У кубачку размыльвалі памазком кавалак мыла. Пену наносілі на твар. А потым вельмі акуратна (нездарма ж брытву назвалі небяспечнай!) праводзілі па твары лязом. І пасля кожнага разу брытву абціралі аб газету.

Бацька Мікалая з вайны прыйшоў без адной рукі. І заўсёды галіўся самастойна. Гэта вельмі здзіўляла многіх. Бо нават самае простае – нацягнуць скуру на твары ў час галення – ён не мог.

Вастрыў і даводзіў інструмент таксама без дапамогі. Рэмень тады або трымаў у зубах, або заціскаў куксай, якая засталася пасля ампутацыі.

– Небяспечную брытву, – кажа Мікалай, – было нялёгка падабраць. Гэта, як і каса: часам набудзеш новую, а яна не косіць зусім. Так і новая брытва магла быць няўдалай.

У былым Савецкім Саюзе такія прылады выпускалі больш у першай палове 20 стагоддзя. Вядомыя маркі “Усход-2”, “Яхта”, “Дарожная”, “Ракета”.

Тады небяспечныя або клінковыя брытвы карысталіся попытам, імі галіліся і дома, і ў цырульнях. Ад цырульніка галенне небяспечнай прыладай патрабавала вялікага досведу і майстэрства. Да таго ж брытва была шматразовая, лязо не мянялася. Таму пасля кожнага кліента была неабходная дэзінфекцыя. У хатніх умовах, калі брытвай карыстаўся адзін чалавек, дэзінфекцыя не была такой строгай.

Потым небяспечныя брытвы сталі менш запатрабаванымі, бо з’явіліся станкі.

### Пераход ад небяспечнасці да электрычнасці

Ужо ў 1970-х бацька перастаў галіцца небяспечнай брытвай, прыгадвае Мікалай. Спачатку набыў звычайны станок, які называлі “бяспечным”, і на той час шмат мужчын ужо карысталіся ім. А потым прыйшоў з войска зяць і прывёз яму ў падарунак электрабрытву. Упраўляцца з ёй адной рукой было куды лягчэй.

Да пенсіі Мікалай шмат гадоў працаваў ветэрынарным доктарам. Таму небяспечная брытва дапамагала ў працы.

Доктар заўсёды насіў яе ў сваім стэрылізатары. Перад аперацыяй небяспечнай брытвай вельмі зручна было галіць жывёлам поўсць на месцы разрэзу скальпелем.

– Наколькі я ведаю, – дзеліцца мужчына, – гэты інструмент да нядаўняга часу выкарыстоўвалі і вайскоўцы. – Рэч, безумоўна, патрэбная ў сумцы санінструктара. Яна даволі зручная ў палявых умовах: можна і пагаліцца, і першую дапамогу аказаць, калі, напрыклад, хтосьці параніўся і трэба разрэзаць адзенне.

### Небяспечная брытва: дзень сённяшні

Сёння дзве кампаніі ў свеце выпускаюць прамысловыя небяспечныя брытвы. Адна з іх у Германіі, другая – у Францыі. Іх брытвы лічаць вельмі якаснымі і выкарыстоўваюць у цырульнях. Сёння небяспечныя брытвы ўсё часцей успрымаюць як сувенір або чарговы экспанат для калекцыі.

…Адзін станок – на тры лязы, другі – на пяць. На ручцы кожнага красуецца назва вядомага брэнда. Аднак калі Мікалай Камінскі хоча звыклую ранішнюю працэдуруператварыць у сапраўдны рытуал і прыгадаць сваё дзяцінства, ён пачынае вастрыць франтавую бацькаву брытву.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЁМ КАЧАТКОВЫМ

## Як навучыцца рашаць задачы па шахматах

**Што рабіць, калі жаданне гуляць у шахматы, рашаць задачы ёсць, а ўмення няма?**

Сёння вас навучыць майстар спорту міжнароднага класа па шахматах з Маладзечна **Віталь Качаткоў**.

### Поле і фігуры: як што называць

Пачнём з шахматнай натацыі. Прынцып нагадвае гульню "марскі бой". Кожная клетка дошкі мае сваю назву. У транскрыпцыі літары гучаць так:

А – а, В – бэ, С – цэ,
D – дэ, Е – е, F – эф,
G – жэ, Н – аш.

Для абазначэння пазіцыі называюць спярша літару, а пасля лічбу: а1, В2, с3 (цэ тры), h4 (аш чатыры).

Фігур у шахматах шэсць, у шахматнай натацыі пішацца першая літара з назвы фігуры. К – конь, Л – ладдзя, С – слон, Ф – ферзь, Кр – кароль. На пешку літара не пішацца, пішуць проста поле, куды яна павінна пайсці.

### Аналізуем задачу №4

Разбяром задачу з кнігі "Мат у адзін ход".

Гэта пазіцыя – адна з самых папулярных на пачатковым узроўні, так званы "дзіцячы мат". Ўзнікнуць магла пры наступным парадку ходаў. Расстаўце шахматы ў зыходнае становішча і выконвайце натацыю.

1. Е4: белыя ходзяць "каралеўскай пешкай на два полі наперад" – з поля е2 на поле е4. Звычайна пешкі ходзяць на адно поле наперад, але сваім першым ходам любая пешка можа пайсці як на адно поле наперад, так і на два. Гэта значыць, што пешка магла пайсці і е2 – е3.

Е5: чорныя ходзяць таксама пешкай ад караля на два ходы. Бяруць пешку е7 і перасаўваюць яе на е5.

2. Сс4: белы слон з поля f1 перасоўваецца па дыяганалі на поле с4.

Сс5: чорны слон з поля f8 перасоўваецца па дыяганалі на поле с5. Чорныя адлюстравалі два хады белых.

3. Фh5: белы ферзь з поля d1 пайшоў па дыяганалі на поле h5.

Кf6: чорны конь з поля g8 скокнуў на поле f6. Толькі коні ў шахматах могуць пераскокваць іншыя фігуры, і свае, і чужыя. На тое яны і коні!

І вось! Перад вамі пазіцыя задачы №4 з кнігі "Мат у адзін ход". Вы правялі запіс шахматнай партыі самі!

А цяпер паглядзім на задачу. Я пералічу магчымыя хады белых, а вы выберыце правільны і дашліце рэдакцыі.

### Магчымыя хады

У гэтай пазіцыі ёсць магчымыя хады пешкамі: А3, а4, b3, b4, c3, d3, d4, f3, f4, g3, g4, h3, h4.

З фігурамі: Ка3, Кс3 (конь можа пераскокваць фігуры), Крd1, Кре2, Крf1, Кf3, Кh3, Ке2. Цяпер пройдземся па ўжо "развітых фігурах": Сс4 – можа пайсці: Сb3, Cd5, Ce6, Cd3, Ce2, Cf1. Акрамя таго, слон можа збіць пешку f7. Запісваецца так: C:f7.

У белых засталася яшчэ адна фігура, якую мы не прайшлі. Гэта ферзь. У гэтай пазіцыі белы ферзь з поля Н5 можа пайсці па гарызანталях і вертыкалях: Фg5, Фf5, Фh6, Фh4, Фh3. Па дыяганалях: Фg6, Фg4, Фf3, Фe2, Фd1. Ферзь можа і біць: Ф:h7, Ф:f7, Ф:e5.

У гэтым масіве хадоў хаваецца рашэнне.

**Віталь КАЧАТКОЎ.**




**Задача №4 з кнігі Віталя Качаткова "Мат у адзін ход". Калі вы дашляце адказ на задачу да 31 мая на адрас regionnews@rh.by, то паўдзельнічаеце ў розыгрышы кнігі "Мат у адзін ход". Правільны адказ на задачу ў №20 – Ф:f7#.**




Фота Наталлі ТУР.

**27 мая – другая дамашняя гульня каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4". Заўзятары ва ўсеўзбраенні.**

# ФК "Маладзечна" радуе сваіх балельшчыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

**І не толькі тым, што і пасля пятага тура займае першы радок турнірнай табліцы, але і новымі сюрпрызамі, якія чакаюць наведнікаў стадыёна падчас хатніх матчаў.**

27 мая на гарадскім стадыёне пройдзе шосты тур чэмпіянату Беларусі па футболе сярод камандаў другой лігі.

На гэты раз у Маладзечна прыедзе каманда з Гомеля.

– Уваход на стадыён бясплатны, – нагадвае старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка**. – Але, акрамя гэтага, усім дзецям да 14 год, што прыйдуць на стадыён са сваімі бацькамі, – марожанае бясплатна.

Старшыня праўлення расказаў, што ў дадзены момант вырашаецца пытанне пра тое, каб падчас матчаў на стадыёне працавалі пункты выязнога гандлю.

– Плануем прадаваць разлівны квас, а таксама фаст-фуд: сасіскі, шаўрму, гамбургеры, бульбу фры, піражкі і гэтак далей. Алкаголю на стадыёне не будзе.

Неўзабаве ўвесь фаст-фуд, што прадаецца на стадыёне, будзе брэндаваны пад фірменныя колеры "Маладзечна", паведамляецца ў суполцы ФК "Маладзечна" (vk.com/fcmolodechno).

Там жа з'явілася інфармацыя пра тое, што са жніўня ў адным з гандлёвых цэнтраў Маладзечна адчыніцца фірменны магазін, у якім будзе прадавацца атрыбутыка каманды.

**Пачатак гульні ў суботу ў 18 гадзін.**

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Яшчэ адна нічыя "Смаргоні"

СМАРГОНЬ

Як і ў мінулым туры, ФК "Смаргонь" 20 мая згуляў унічыю. У сёмым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе смаргонцы гулялі ў гасцях супраць "Слоніма-2017" – суседа па турнірнай табліцы. Цікава, што да гэтага пяць матчаў паміж гэтымі клубамі ў Слоніме завяршыліся ўнічыю.

Напачатку была ўцялым роўная гульня. На 35-й хвіліне пасля падачы з вуглавога **Сямён Смунёў** на далёкай штанзе скочыў вышэй за ўсіх і паслаў галавой мяч у вароты: 1:0 на карысць "Смаргоні". Неўзабаве партнёр пасам уразрэз вывеў **Ігар Халадкова** адзін на адзін з варатаром. Але гулец "Смаргоні" перакінуў не толькі варатара, але і вароты.

У другім тайме на 69-й хвіліне пасля прастралу гулец гаспадароў зраўняў лік:

1:1. Лічбы на табло не змяніліся да канца матча. Ёсць шостая нічыя паміж гэтымі клубамі запар у Слоніме.

Паядынак паміж "Слонімам-2017" і "Смаргонню" стаў лепшым па наведвальнасці сярод усіх матчаў сёмага тура першай лігі. Яго паглядзелі 590 чалавек.

Пасля гэтага тура "Смаргонь" не змяніла сваё месца ў турнірнай табліцы: клуб займае дзявятае месца.

## З кім каманды рэгіёна згуляюць у Кубку

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

Адбылося лёсаванне другога кваліфікацыйнага раўнда Кубка Беларусі сезона 2017/18. "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляе з "Энергетыкам-БДУ", "Чысць" прыме "Хімік" са Светлагорска, "Смаргонь" у гасцях памераецца сіламі з "Любанню".

Матчы адбудуцца 14 чэрвеня. Пераможцы прымуць удзел у 1/16 фіналу, дзе да іх далучацца каманды вышэйшай лігі.

## Смаргонская каманда стала пераможцай рэгіянальнага фіналу

СМАРГОНЬ

У Гродне 19 мая адбыўся рэгіянальны фінал рэспубліканскага турніру па футболе "Кубак Coca-Cola. Уступай у гульню!" сярод хлопчыкаў і дзяўчынак.

Смаргонь у фінале прадстаўлялі каманда дзяўчат пад кіраўніцтвам трэнера **Віталя Арцёменкі** і каманда юнакоў (трэнер – **Уладзіслаў Дукса**).

Каманда дзяўчынак заняла чацвертае месца. Каманда хлопчыкаў выступіла больш удала. У паўфінале смаргонцы абыгралі каманду Гродзенскага раёна

1:0. У фінале былі мацнейшыя за аднагодак з Навагрудка 3:0. У выніку смаргонская каманда стала пераможцай рэгіянальнага фіналу, паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні.

Фінал турніру адбудзецца 1 чэрвеня ў Мінску.

## Перамога "Чысці"

МАЛАДЗЕЧНА

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе "Чысць" дома 21 мая прымала "Узду". Гаспадары першымі прапусцілі гол на 16-й хвіліне, але потым у вароты гасцей ўляцелі чатыры галы.

У "Чысці" двойчы вызначыўся **Аляксандр Працкевіч**, адзін гол на рахунку **Уладзіслава Гайдукевіча**, і быў яшчэ адзін аўтагол. Госці змаглі толькі скарацiць лік у матчы. Вынік – 4:2 на карысць "Чысці".

У турнірнай табліцы "Чысць" паднялася з сёмага месца на чацвертае.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Працаваць не любіш – ... не будзеш.
3. У 1861 годзе ў Нью-Ёрку адкрылі першыя курсы ў гэтым накірунку. Праз пяць год у ЗША з гэтым працавала 60 тысяч дзяўчат.
4. Назва гэтага слова паходзіць ад старажытнаегіпецкага “царственны”.
5. Вяжучае адчуванне ў роце нечага кіслага.
6. Атрутная расліна, якая расце ў Беларусі.
10. Гранічныя знешнія абрысы прадмета, іх аб’ём, велічыня.
11. Драпежны пушны звер сямейства куніцавых з вострай мордай.
12. Каго паслалі з тэрміновым паведамленнем.
13. Знакі, якія служаць мерай вартасці пры куплі-продажы.
14. Прамавугольны лісток паперы або кардону.
16. Захоўваюць асноўны запас прэснай вады.
17. Сталіца Ліхтэнштэйна.
18. Трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай.
21. Зборнік геаграфічных карт.
22. Складаная, заблытаная справа.
26. Апарат для награвання вады ў сістэмах цеплазабеспячэння.
27. Нотны знак, які азначае паніжэнне гуку на паўтона.
28. Гаспадарчая пабудова для прасушвання снапоў.
30. Мясцовасць з прыроднымі лекавымі сродкамі і санаторыямі для лячэння і адпачынку.
31. Прозвішча дырэктара Вілейскага краязнаўчага музея.
33. Грубая непрамакаемая парусіна.
35. Мэтанакіраваны сфарміраваны вобраз.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Служанка пры пані.
7. Рака каля Смаргоні.
8. Хто займаецца перавозкай людзей на ўласнай фурманцы.
9. Горад у Гродзенскай вобласці, які атрымаў такі статус у 2012 годзе.
10. Група людзей з агульнымі інтарэсамі.
11. Металічная ці пластмасавая пасудзіна цыліндрычнай формы, у якой, напрыклад, зручна захоўваць малако.
13. Дабрадушна-жартаўлівыя адносіны да чаго-небудзь.
15. Маленькае паразітычнае насякомае, якое страціла крылы ў працэсе эвалюцыі.
19. У перакладзе з грэчаскай гэта значыць “назіраючы час”. Назавіце гэта вядомае слова, якое сустракаецца ў кожным нумары “РГ”.
20. Доўгатэрміновыя ўнёскі сродкаў для стварэння новых і мадэрнізацыі працуючых прадпрыемстваў, асваення навейшых тэхналогій і тэхнікі, павелічэння вытворчасці.
22. Сястра мужа.
23. Тое, што і мікраарганізм.
24. Уладзімір Караткевіч: “Кожны чалавек носіць саваё ... з сабой”.
25. Марна патраціць.
29. Не гербе гэтага горада Віцебскай вобласці выява белай птушкі.
30. Дзяржаўны, які мае адносіны да казны.
32. Леў Сапега: “Мы павінны быць ... законаў для таго, каб мець магчымасць карыстацца свабодай”.
34. Адна з вёсак на беразе Нарачы, назва якой звязаная са словам, што азначае ступень сваяцтва паміж дзіцем і айчымам.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №20.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Камутатар. 3. Насельніцтва. 4. Хларафіл. 5. Галера. 7. Ляпсус. 8. Качка. 13. Ніцма. 14. Ультрагук. 15. Касынка. 17. Напавер. 20. Кагал. 24. Адклад. 25. Гюрза. 27. Ураўненне. 29. Эльдарада. 33. Магіл.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Кукуруза. 6. Хмарачосы. 8. Калчан. 9. Лівер. 10. Замашка. 11. Жалейка. 12. Воцат. 16. Жабрак. 18. Мігам. 19. Дылер. 20. Клёкат. 21. Вусень. 22. Палуба. 23. Аграба. 25. Галаву. 26. Здань. 28. Фэрдынанд. 30. Кісларод. 31. Казкі. 32. Меламан. 34. Ёлкі.

## ГАРАСКОП 26 МАЯ - 1 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Радасць наведае ваш дом, дазваляючы значна ўмацаваць адносіны, а заадно набыць штосьці каштоўнае для паўсядзённага быту. І ўвогуле лёс спрыяе вам і будзе дапамагаць ва ўсім, толькі самі сабе не перашкаджайце.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам захочацца вострых адчуванняў. Вы будзеце схільныя ісці на рызыку, але між іншым вам будзе спадарожнічаць удача. Магчыма, ад вашых рашэнняў і ўчынкаў будзе залежаць лёс іншых людзей.



**БЛІЗНЯТЫ.** Гэтымі днямі вы будзеце схільныя да фаталізму, думаючы, што ўсё вырашае выпадак, і на нейкі момант апусціце рукі. Але хутка зноў паверыце ў сваю ўдачу і ў тое, што ўсё залежыць менавіта ад вас.



**РАК.** Верагодна, што вы атрымаеце карысную інфармацыю, якая хутка спатрэбіцца, а таксама дзелавыя прапановы, якія прынясуць прыбытак. З пункту гледжання ўласных адносінаў, гэты час вельмі спрыяльны, ён добра падыходзіць для зносін з тымі, хто вам асабліва дарагі.



**ЛЕЎ.** Дні будуць даволі супярэчлівыя. Гэта складаны перыяд, для некаторых ён стане самым цяжкім за апошнія некалькі гадоў. Але назваць яго безнадзейным ніяк нельга: у вас ёсць шанс справіцца з усімі праблемамі і дасягнуць поспеху. Галоўнае, настроіцца на сур’ёзны лад, пастарацца не ісці на павадзе ў капрызаў і шкодных звычак. Вельмі важнай будзе самадысцыпліна.



**ДЗЕВА.** Калі ў вас былі канфлікты ў сям’і, з бацькамі, то цяпер самы час ісці на міравую. Не выключана, што вы адчуеце ўзмацненне цягі да філасофска-светапоглядных і культуралагічных ведаў. Формы і ўстаноўкі, якія вы будзеце ствараць у думках, змогуць у далейшым увасобіцца ў жыццё.



**ШАЛІ.** Вы своечасова праяўляеце лепшыя якасці, што дапамагае выклікаць спрыяльнае ўражанне. Дапамагчы вам гатовыя нават нядаўнія нядобразычліўцы. Не лянуйцеся. Цяпер вы павінны быць не кавалём, а ювелірам уласнага шчасця.



**СКАРПІЁН.** Займіцеся тымі справамі, якія надзейныя і нясуць стабільнасць не толькі ў матэрыяльных, але і ў сацыяльных адносінах. Але яшчэ трэба прыкласці намаганні – і ўсё наладзіцца, будзе аплачана і ўзнагароджана. І тады, добра папрацаваўшы, вы заслужыце адпачынак.



**СТРАЛЕЦ.** Зоркі на вашым баку, уплыў пазітыўных тэндэнцый акажацца моцным. Могуць узнікаць нейкія нестандартныя сітуацыі, незвычайныя пытанні, тут абавязкова выручыць інтуіцыя: яе падказкі будуць верныя і дакладныя.



**КАЗЯРОГ.** Збаўце абароты, дайце час на адпачынак, таму што не выключаны недамаганні, а яны будуць вынікам launch перагаамлення.



**ВАДАЛЕЙ.** Што б ні адбывалася, вы захоўваеце аптымізм і пазітыўны погляд на рэчы. Гэта робіць вас амаль чароўным у вачах навакольных. І не дзіва, што многія хочуць пазнаёміцца з вамі ці разам правесці час. Але ёсць вострыя моманты, прычына іх – ваша жаданне ўва што б там ні стала дабіцца свайго. Праяўляйце трохі больш павагі да чужых інтарэсаў, і вы зможаце пазбегнуць многіх канфліктаў.



**РЫБЫ.** Дні неспакойныя, супярэчлівыя і па-свойму цікавыя. Адбудзецца нямала падзей, якіх вы ніяк не маглі чакаць. Магчымыя нечаканыя знаёмствы, сустрэчы з людзьмі, якія не падобныя на тых, каго вы ведалі раней. У некаторых з вас зменіцца кола зносінаў, і гэта стане пачаткам зусім новага жыццёвага этапу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 9 | 3 | | 5 | |
| | 9 | | | 6 | | | | 2 |
| 7 | | 5 | 2 | | | | | |
| | | | | | 5 | | | 4 |
| 5 | 1 | | | | | | 7 | 9 |
| 6 | | | 8 | | | | | |
| | | | | | 8 | 9 | | 1 |
| 3 | | | | 4 | | | 2 | |
| | 6 | | 1 | 3 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## Мінскі абласны драматычны тэатр




**РЭПЕРТУАР НА МАЙ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**Прысвячаецца Міжнароднаму дню абароны дзяцей і Сусветнаму дню бацькоў**

“**Кот у ботах**” (музычная казка), *Вольга Ліс*
31 мая – у 17:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Дзядзечкаў сон**” *Фёдар Дастаеўскі* (камедыя мардасаўскіх нораваў),
30 мая – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*

Тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 00066659

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

27 мая, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +17 | | +12 / +19 | | +13 / +21 | | +16 / +26 | |
| | 740 | ↘ 4 | 745 | ↘ 4 | 745 | ↘ 2 | 737 | → 8 |
| Вільня | +11 / +17 | | +9 / +18 | | +12 / +23 | | +16 / +25 | |
| | 749 | ↓ 5 | 754 | ↘ 4 | 753 | → 4 | 745 | → 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.49
Захад 21.30
Даўжыня дня 16.41

Усход 6.41
Захад 23.10
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +1,8 °С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +29 °С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 38,6 мм у 2014 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Я зразумела, што мне спадабаецца ў Черкасах ужо тады, калі мы пад'язджалі да горада. А пасля былі казакі, музеі, сустрэчы, песні пра "рідну мацi" і, канешне ж, украінскія пачастункі. Матэрыял, прысвечаны паездцы ў Черкасы, – у наступным нумары "РГ".**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы робіце, калі ў вас няма грошай?



**Аляксандр Маўчанаў, навучэнец:**
– Такія сітуацыі здараюцца. Мае ж бацькі не мільянеры. Калі няма грошай, то сяджу дома: сплю або вісну ў інтэрнэце.



**Святлана Чэчаль, у дэкрэтным адпачынку:**
– У нашай сям'і стараюцца не допускаць такіх сітуацый. І пакуль у нас атрымліваецца.



**Аляксандр Шупляк, навучэнец:**
– Калі ў мяне няма грошай, я заходжу ў магазіны, гляджу на прадукты ў мясным аддзеле і пускаю скупую мужчынскую слязу.



**Сабіна Эвазава, вучаніца:**
– Мне цяжка ўявіць такую сітуацыю. Я яшчэ школьніца, жыву з бацькамі. Таму матэрыяльных праблем не ведаю. Сёння прыехала ў Маладзечна з Мядзела рэгістравацца на цэнтралізаванае тэставанне. Стану студэнткай, магчыма, грошай і не будзе хапаць.



**Ларыса Сысун, работнік культуры:**
– Эканомлю. Куплю сачавіцу, прарошчваю яе. Столькі ежы нарастае! А вясной ўвогуле можна на падножны корм перайсці: крапіва, дзьмухаўцы. А яшчэ ёсць салодкая трава снітка, таксама ядомая. Пра яе нават беларускія класікі пісалі.



**Вікторыя Крывенька, вучаніца:**
– Зарабляю. Напрыклад, летам у вёсцы некаторым гаспадарам можна грады за грошы прапалоць. А ўвогуле, такіх сітуацый амаль не бывае. Я ж з бацькамі жыву.



**Дзяніс Бурко, выратавальнік:**
– А ў мяне яшчэ не было такіх сітуацый, каб грошы скончыліся.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№21 (1152) 26.05.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 494. Падпісана ў друк у 9.00 25.05.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.